НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 4 (745) 1 лютага 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕ…

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва.



## Байцоўскія сабакі: забараніць ці дазволіць?

**Дзесяцігадовую Сашу з Віцебска сур'ёзна пакусаў ратвейлер...**
**Чаму сабаку біцца з сабакам нельга, а парваць лісу на паляванні можна?**
**Старонка 6.**

# Саннікаў падпісаў прашэнне аб памілаванні

Што гэтаму папярэднічала? Старонка 3.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Тэндэнцыі

## «Колькі вы зарабляеце?»

Больш за $500 зарабляюць праграмісты, прадпрымальнікі і начальнікі.

Выніковая статыстыка за 2011 год, агучаная Белстатам на мінулым тыдні, не пакінула беларусаў абыякавымі. Найбольшае абурэнне выклікаў сярэдні заробак мінчукоў. У снежні яны нібыта атрымалі 3,83 мільёна рублёў (больш за $450!). А па краіне сярэдні заробак дасягнуў 2,89 мільёна. Але ці мае такія грошы большасць вашых знаёмых?

«Наша Ніва» запыталася ў чытачоў сайта, колькі зарабляюць яны. Колькасць каментароў перабіла ўсе рэкорды — на нашае пытанне было дадзена ажно 388 адказаў. Атрымалася, што сярэдні заробак апытаных наведнікаў сайта — з усёй краіны — склаў каля 3,2 мільёна рублёў. Варта ўлічваць, што інтэрнэтам карыстаюцца больш забяспечаныя слаі грамадства, дый «Нашу Ніву» чытаюць людзі працавітыя, здольныя, заробак якіх у цэлым большы за сярэдні.

Аднак за «сярэдняй тэмпературай па бальніцы» хаваецца даволі бязрадасная лічба для большасці «пацыентаў».

**Працяг на старонцы 5.**

Палітыка

### Рымашэўскі атрымаў выспятак

ад Фрэдуты. І сарваў пагадненне аб адзінстве дзеянняў апазіцыі.
**Старонка 4.**



Спорт

### «Ператвараецца ў маленькага дзікага звярка»

Азаранка першая ў свеце.
**Старонка 9.**



Здарэнні

### Што здарылася з вадой у Лідзе?

Пахла ацэтонам, рэкамендавалі кіпяціць.
**Старонка 10.**



Гісторыя

### Літоўская мова ў Вялікім Княстве

Наколькі значнай была яе роля. Піша Алег Дзярновіч.
**Старонка 13.**



# Чысткі ў мінскай адміністрацыі

**Крымінальная справа распачата ў дачыненні да першага намесніка кіраўніка Маскоўскага раёна Мінска.**

Следчым камітэтам распачатая крымінальная справа ў дачыненні да першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі Маскоўскага раёна Мінска. Справа заведзеная па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 430 «Атрыманне хабару» Крымінальнага кодэкса.

У СК дадалі, што 30 студзеня затрыманаму было выстаўленае абвінавачванне ў здзяйсненні некалькіх эпізодаў атрымання хабару. Іншыя падрабязнасці пакуль не паведамляюцца.

БелТА



PHOTO.BYMEDIA.NET

### Варта ведаць

## Як працуюць у моцныя маразы

**Згодна з санітарнымі нормамі, выдзяляецца некалькі катэгорый працаў у памяшканні.**

1. Дапушчальная тэмпература для людзей, якія працуюць у памяшканнях седзячы, павінна быць не ніжэй за 20 градусаў цяпла.

2. Для людзей, якія працуюць седзячы і стоячы, і праца якіх часткова звязана з хадой, дапушчальная тэмпература складае 19 градусаў.

3. Для супрацоўнікаў, чыя праца звязаная з пастаяннай хадой, тэмпературны рэжым складае не менш за 17 градусаў.

4. Пры пераносе прадметаў вагой да 10 кг — 15 градусаў.

5. Пры пераносе прадметаў вагой звыш 10 кг, іншымі значнымі фізічнымі высілкамі — 13 градусаў.

Варта памятаць пра тэмпературу і пасля працы. У пакоях для адпачынку ў маразы звыш 10 градусаў тэмпература паветра павінна складаць не менш за 22 градусы, у душавых памяшканнях — не ніжэй за 25 градусаў.

Калі гэтыя нормы парушаюцца, звяртайцеся ў незалежныя СМІ і незалежныя прафсаюзы.

Сямён Печанко

# «Дызелі замярзаюць проста ў час руху»

**ДАІ заклікае кіроўцаў падвоіць увагу ў сувязі з моцнымі маразамі.**

Кіроўцам трэба добра рыхтаваць аўтамабілі да яшчэ больш моцных маразоў, якія чакаюцца ў бліжэйшы час. Такую рэкамендацыю дае ДАІ.

Для дызельных рухавікоў трэба выкарыстоўваць спецыяльнае зімовае паліва. Усім вадзіцелям таксама трэба праверыць якасць ахаладжальнай вадкасці ў сістэме ахаладжэння рухавіка: яе трэба запоўніць антыфрызам або тасолам з адпаведнай тэмпературай замярзання. Важна праверыць і зарад акумулятарнай батарэі, спраўнасць сістэмы ацяплення. Таксама трэба не забыць запоўніць бачок шклоабмывальніка незамярзаючай вадкасцю.

Акрамя таго, ДАІ рэкамендуе аўтаўладальнікам, па магчымасці, адмовіцца ад працяглых паездак на асабістым транспарце.

«Як паказвае вопыт, многія дызелі замярзаюць проста ў час руху, — адзначаюць у ДАІ. — А тым, хто яшчэ не ўстанавіў зімовыя шыны, неабходна «пераабуць» аўтамабіль хоць бы цяпер. Неабходна павялічыць дыстанцыю пры яздзе, пазбягаць любых рэзкіх рухаў і манеўраў», — дадалі ў ДАІ.

Уважлівымі павінны быць не толькі вадзіцелі, але і пешаходы. На слізкай дарозе аўтамабіль часам проста не можа своечасова спыніцца.

Паводле БелТА

# Адвакатам не раяць даваць інтэрв'ю без дазволу

**Ліст з такім патрабаваннем атрымалі абласныя і Мінская гарадская калегіі адвакатаў.**

У Рэдакцыю трапіла копія ліста за подпісам старшыні Рэспубліканскай калегіі адвакатаў Чайчыца. У ім адвакатам раяць узгадняць інтэрв'ю з загадчыкамі калегій. А на іх намеснікаў кладзецца абавязак вывучаць інтэрв'ю, што з'яўляюцца ў СМІ, і накіроўваць іх у Рэспубліканскую калегію.

Звязана гэта з тым, «што ў сродках масавай інфармацыі, часцей электронных, з'яўляюцца інтэрв'ю асобных адвакатаў са скажонай інфармацыяй».

Можна меркаваць, што гэта чарговая спроба абмежаваць актыўнасць адвакатаў. У 2011 годзе шэраг выдатных адвакатаў, што займаліся абаронай палітвязняў, страцілі ліцэнзіі.

Кастусь Матушыч

# Салідарнасць з Бяляцкім

**Шырын Эбадзі вылучыла Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру.**



Шырын Эбадзі — іранская адвакатка, якая атрымала Нобелеўскую ўзнагароду ў 2003 годзе. Эбадзі паведаміла, што дасылае свой намінацыйны ліст у Осла экспрэспоштай. Тэрмін вылучэння сканчаецца 31 студзеня.

Зняволенне Алеся Бяляцкага выклікала незраўнаную хвалю салідарнасці з беларускім народам у розных краінах свету.

Бяляцкі збіраў грошы на дапамогу рэпрэсаваным і ахвярам рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Беларускія ўлады здабылі праз органы юстыцыі Літвы і Польшчы нумары ягоных рахункаў і пасадзілі яго ў турму, звінавацім ў няспалаце падаткаў.

Бяляцкі заслужыў вядомасць і павагу ў 1980-я гады як адзін з пачынальнікаў руху за незалежнасць Беларусі. На пачатку 90-х ён быў абраны дэпутатам Мінскага гарсавета. Пры канцы 1990-х ён адышоў ад палітыкі і стаў займацца дапамогай пацярпелым. Праваабаронцы-вясноўцы прыходзілі з дапамогай да ўсіх няправедна асуджаных, незалежна ад іх палітычных поглядаў.

Дагэтуль грамадзяне Беларусі Нобелеўскіх прэмій не атрымлівалі.

Мікола Бугай

### Не ўсё ў жыцці апошні раз

# Дык падпісвайся!

#### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

#### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

### Сцісла

**Фотавыстава, прысвечаная Ермаковай**

Такая адкрылася ў Палескім універсітэце. Галоўная банкірка Беларусі скончыла Пінскі ўліковакрэдытны тэхнікум. А менавіта на яго аснове быў створаны Палескі ўнівер.

**Нігерыйскія баевікі прыедуць вучыцца ў Беларусь**

Былыя нігерыйскія баевікі правядуць пяць гадоў у Беларусі, вывучаючы такія спецыяльнасці, як інфарматыка, нафтахімія і радыёэлектроніка. Справа ў тым, што сёлета ўрадавай праграмай навучання ў Нігерыі і за мяжой будуць ахопленыя каля 12 тысячаў былых баевікоў, якія раней змагаліся супраць урадавых сілаў у дэльце ракі Нігер. Некалькі гадоў таму нігерыйскі ўрад і паўстанцы дамовіліся аб міры.

**Мясніковіч раскрытыкаваў Мінсельгасхарч**

«Эканоміка галіны не вытрымлівае ніякай крытыкі», — заявіў ён 30 студзеня на нарадзе. У 2011 годзе 11 з 16 дадзеных паказчыкаў міністэрства не выканала. А даўгоў набралася на 60 трлн рублёў, у тым ліку пратэрмінаваных — прыкладна 4,5 трлн.

СГ

### Трохі лірыкі

Сяржук Сыс. **Беласток**

У гарадах блукаў далёкіх,
Губляўся ў скопішчы людзей,
І толькі ў ціхім Беластоку,
Так, так, у ціхім Беластоку,
Мне больш утульна і мілей.

Да Заменгофа вольным крокам
Прайсці па Ліпавай наўсцяж…
Бо толькі ў шчырым Беластоку,
Так, так, у шчырым Беластоку,
Яшчэ застаўся подых наш.

А як злятаюцца аблокі
На мадэрновы свенты Рох!
Ды ўсё таму, што ў Беластоку,
Так, так, у светлым Беластоку,
Здаецца, часам ходзіць Бог.

Яшчэ не раз усцешаць вока
Пляц і Браніцкага Версаль,
Пакуль спачну не ў Беластоку,
Так, так, спачну не ў Беластоку,
А ў Беларусіі, на жаль…

26 студзеня добраму паэту Сержуку Сысу споўнілася 50 гадоў. Больш вершаў — у яго блогу retshyz.livejournal.com. Дарэчы, адначасова з юбілеем выйшла першая ягоная кніга «Стрэмка».

### Самае чытанае на nn.by за 25—31 студзеня

1. Халіп: Саннікаў падпісаў прашэнне аб памілаванні
2. Белстат: сярэдні заробак у Мінску дасягнуў 3,8 млн рублёў. А колькі зарабляеце вы?
3. «Жывём утрох на 600 тысяч. Ніколі так добра не жылі!»
4. Рэкорд Беларусі: сушы вагою 21 кілаграм
5. Рымашэўскі сарваў падпісанне пагаднення аб адзінстве дзеянняў апазіцыі
6. Фотазагадка: Дзе адбылося вяселле?
7. У Мінску пачаліся продажы iPhone 5G — фотафакт
8. Беларуская «Мара» Сяргея Левіна
9. Цыцкі ці грудзі? Як правільна па-беларуску?
10. Biełaruskaja łacinka: kali pryjdzie jaje čas?

# Саннікаў падпісаў прашэнне аб памілаванні

Халіп: «Муж выглядае так, **нібыта прайшоў 10 гадоў** сталінскіх лагераў».

### Доўгачаканая сустрэча

24 студзеня жонка Андрэя Саннікава Ірына Халіп і мама Ала Уладзіміраўна пасля доўгага, поўнага трывог перапынку атрымалі магчымасць наведаць палітвязня ў турме. У той жа вечар стала вядома, што на наступны дзень на сядзібе незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці адбудзецца прэс-канферэнцыя Ірыны. Сустрэча чакалася з нецярпеннем, каб пачуць, што там з Саннікавым пасля доўгіх і незразумелых этапаў, перакідванняў з калоніі ў калонію. Але ніхто не чакаў таго, што паведаміла Ірына.

Са словаў Ірыны Халіп, маці Саннікава ўсе 4 гадзіны дарогі назад з калоніі праплакала. Бо першай фразай сына былі словы: «Я не спадзяваўся, што яшчэ калісьці цябе пабачу».

Ірына моцна хвалявалася, нават трымцела часам. Яе рукі шукалі адна другую, пальцы не знаходзілі сабе месца. Заява Ірыны была эмацыйнай, ірванай і поўнай горычы, хоць жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты, якая сама прайшла праз турму КДБ і хатні арышт, і стрымалася гэтым разам ад слёз. Усяго 6 хвілін і 30 секундаў заняло Ірыне апавяданне. На сярэдзіне 4-й хвіліны Ірына паведаміла галоўнае: Саннікаў яшчэ 20 лістапада падпісаў прашэнне аб памілаванні.

### Размова пра запіскі

«Мая адседка скончылася ў верасні. Далей пачаліся катаванні», — так перадае словы Саннікава ягоная жонка.

Халіп паведаміла, што яе муж папярэдзіў: перад сустрэчай з ёй і яе маці 24 студзеня яго праінструктавалі, што размовы будуць адбывацца пад аўдыёзапіс. На сустрэчы побач з імі сядзеў чалавек з адміністрацыі калоніі. Таму Саннікаў шмат канкрэтнага сказаць не мог, лічыць жонка. Калі б Саннікаў «нешта расказаў не тое», то сустрэча адразу б спынілася.

«Муж выглядае так, нібыта прайшоў 10 гадоў сталінскіх лагераў», — кажа Халіп.

Ірына Халіп сцвярджае, што з 16 па 20 лістапада ў магілёўскай турме з ім адбывалася «нешта жахлівае», але ён не мог патлумачыць што.

Ірына напісала запіску і прыклала да шкла: «Пагражалі нашай сям'і?» Ён кіўнуў, кажа Халіп. «Калі спадар Зайцаў яшчэ ў СІЗА КДБ не грэбаваў пагражаць забойствам мяне і нашага сына Даніка, чаму тады асобы рангам ніжэй не маглі пераняць гэтыя метады?» — выказвае здагадкі яна.

«Гаворка ідзе аб выратаванні жыцця, мяне могуць забіць у любы момант» — такую запіску, па словах Халіп, Саннікаў прыклаў да шкла пры развітанні. А Ірыне сказаў, што «хачу хаця б яшчэ раз убачыцца».

### Чаму 23 снежня?

Міністэрства ўнутраных справаў у той жа дзень заявіла: «Пры падачы ім [Саннікавым] прэзідэнту Беларусі хадайніцтва аб памілаванні псіхалагічнага і фізічнага націску не аказвалася». Заадно высвятліўся іншы дзіўны момант.

Халіп расказала, што Саннікаў падпісаў прашэнне аб памілаванні яшчэ 20 лістапада. «І калі Лукашэнка яшчэ тады атрымаў так жаданую паперку за подпісам свайго самага моцнага суперніка, чаму ён не размахваў ёй на сваёй прэс-канферэнцыі ў канцы снежня? Варыянтаў толькі два. Альбо Лукашэнка даўно не кантралюе сітуацыю, ці ў рэальнасці Лукашэнку не патрэбныя гэтыя паперкі — а гэта толькі адмазка для журналістаў, якія задаюць пытанні наконт вызвалення палітвязняў», — рытарычна пыталася яна.

Тым часам у МУС паведамілі, заява Саннікавым была пададзена толькі 23 снежня. Калі верыць міністэрству, гэта было зроблена роўна ў той дзень, калі Лукашэнка даваў прэс-канферэнцыю! На ёй ён, нагадаем, заявіў, што палітвязні адмаўляюцца пісаць прашэнні. І нібыта толькі праз месяц, 23 студзеня, гэтае хадайніцтва «разам з неабходнымі матэрыяламі было адпраўлена ў аддзел па пытаннях грамадзянства і памілавання Адміністрацыі прэзідэнта».



**Нават на судзе Саннікаў верыў у сваю перамогу.**

### Голас народа

«І добра, што Саннікаў напісаў прашэнне. Галоўнае, каб ён пабачыў свайго Даніка, а Данік пабачыў тату. Народ усё разумее», — сказала нам жанчына, якая патэлефанавала ў Рэдакцыю з Барысава.

### Гандаль працягваецца

Разабрацца ў тым, што адбывалася за кратамі, можна будзе толькі пасля таго, як Саннікаў выйдзе на свабоду. Тады ж грамадства даведаецца дату напісання прашэння і яго акалічнасці.

Сам факт патрабавання ад палітвязняў прашэнняў аб памілаванні выклікаў у міжнароднай супольнасці чарговую порцыю крытыкі, змяшанай з агідай. Рэч у тым, што ў панядзелак 30 студзеня кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова прызналася: у лютым беларускія ўлады маюць намер абмеркаваць з місіяй Міжнароднага валютнага фонду пытанне аб новай крэдытнай праграме. Мінск хацеў бы пазычыць 3,8 мільярда даляраў для абслугоўвання сваёй ранейшай замежнай запазычанасці. Вядома, што краіны Захаду — а яны трымаюць у МВФ кантрольны пакет — пытанне пра крэдыт разглядаць не настроеныя, пакуль у Беларусі застаюцца ў турмах 15 палітвязняў, ад Саннікава да Васьковіча. Лукашэнкаўскім дыпламатам не ўдалося разыграць карту «ўзмацнення залежнасці Беларусі ад Расіі». Менавіта гэтым у кулуарах абгрунтоўвалі для заходнікаў неабходнасць супрацоўніцтва Беларусі з міжнароднымі фінансавымі інстытутамі. І менавіта прашэнне Саннікава дае Лукашэнку новую магчымасць выпусціць не толькі яго, але і астатніх палітвязняў. У сваю чаргу, гэта адчыніць магчымасці для абмеркавання крэдыту МВФ.

Таму свет бачыць у апошніх падзеях найперш новы эпізод «гандлю заложнікамі».

**Сяргей Макарэвіч, Мікола Бугай**

### Цікава ведаць

На тых нешматлікіх участках у Мінску, дзе дазволілі паўнавартае назіранне за выбарамі, Саннікаў у 2010 годзе займаў аднязначнае другое месца. І мог разлічваць на другі тур з Аляксандрам Лукашэнкам.

# «Толькі пару працэнтаў людзей змаглі б вытрымаць тое»

Палітыкі і палітвязні — **пра сітуацыю з экс-кандыдатам** у прэзідэнты.

**Анатоль Лябедзька:** «Трэба канцэнтравацца не на чалавечых слабасцях, а на змене сістэмы, якая прымушае іх праяўляць. Гэта наша мэта і галоўны прыярытэт».

**Аляксандр Казулін:** «Не варта абмяркоўваць Саннікава як слабога чалавека. Думаю, што толькі пару працэнтаў людзей змаглі б вытрымаць тое, што на яго навалілася. Я сам прайшоў падобны шлях, і скажу, што трэба мець моцную веру ў вышэйшае, каб ісці да канца. Асабіста для мяне падпісаць такое прашэнне было проста немагчыма, бо разглядалася б як здрада».

**Уладзімір Някляеў:** «Я буду рады, калі Андрэй Саннікаў выйдзе з-за кратаў на свабоду. Мы ведаем, што Саннікаў прапаноўваўся на Захад як «палітычны тавар». Я не выключаю, што Лукашэнка, займеўшы прашэнне Саннікава, доўга маўчаў пра тое, бо хацеў забіць двух зайцоў. І адносіны змяніць, і грошы атрымаць. Мяркую, што Лукашэнку ў дадзеным выпадку не задаволіць прашэнне. Маўляў, гэты ішоў свядома на неканстытуцыйны пераварот. Таму хай ён сядзіць».

**Дзмітрый Ус:** «Гэта яго права, яго ўчынак. Я шкадую, што так атрымалася, што не хапіла сілы духа. На яго ўсклалася столькі спадзяванняў. Калі Саннікаў адмовіўся ад сваіх ідэй, то гэта нешта ды значыць. Зламалі, атрымліваецца».

**Наста Палажанка:** «Саннікаў як быў для мяне годным і мужным чалавекам, так і застаўся. Спадзяюся, што ён хутка будзе дома. Са сваімі роднымі. Саннікаву цяпер важна ведаць, што мы як былі з ім, так і застаёмся, мы падтрымліваем яго».

**Аляксандр Атрошчанкаў:** «Тое, што адбывалася ў СІЗА КДБ, — гэта нечалавечы ціск. Мелі месца катаванні, пагрозы ў адносінах да Саннікава. Тое, што адбываецца сёння ў Беларусі, — сярэднявечнае дзікунства. Людзей павольна знішчаюць. Чаму яго так і не выпусцілі за гэтыя два месяцы? Мэта Лукашэнкі — не выбіць прашэнне, а знішчыць апанентаў, якіх ён баіцца».

**Павел Севярынец:** «Рэчы, якія робяць з сённяшнімі палітвязнямі, нельга назваць інакш як мярзота. Але перад Богам давядзецца адказаць усім, у тым ліку і Лукашэнку».

**Аляксандр Мілінкевіч:** «Я дакладна ведаю, што Андрэй Саннікаў невінаваты і ён не здзейсніў ніякага злачынства. У гэтай сітуацыі ўлады ў чарговы раз паказалі сваю неадэкватнасць і няздольнасць весці дыялог з апанентамі. Андрэй быў і застаецца мужным чалавекам і моцным палітыкам».

**Зміцер Панкавец, СМ**

### Што такое катаванні?

Канвенцыя супраць катаванняў і іншых жорсткіх, нечалавечых альбо прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання пад катаваннямі разумее любое дзеянне, якім каму-небудзь наўмысна наносяцца моцны боль альбо пакуты, фізічныя ці маральныя, каб атрымаць ад яго альбо ад трэцяй асобы сведчанні ці прызнанні, пакараць яе за дзеянні, якія здзейсніла яна ці трэцяя асоба, альбо ў здзяйсненні якіх яна падазраецца, а таксама запужаць альбо прымусіць яе ці трэцюю асобу, альбо па любой прычыне, заснаванай на дыскрымінацыі любога характару, калі такі боль ці пакуты наносяцца дзяржаўнай службовай асобай ці іншай асобай, якая выступае афіцыйна, ці з іх ведама альбо маўклівай згоды.

Расследаваць справы аб катаваннях павінен нацыянальны суд. Міжнародныя суды бяруцца за справу толькі ў выключных выпадках.

# Рымашэўскі сарваў падпісанне пагаднення аб адзінстве дзеянняў апазіцыі

І атрымаў **выспятка ад Фядуты.**

АГП, Рух «За Свабоду», «Гавары праўду», БНФ былі гатовыя падпісаць пагадненне аб адзінстве дзеянняў апазіцыі ў часе «выбараў» у палату прадстаўнікоў. Прапаноўваўся прымальны для ўсіх варыянт-мінімум: калі ўлады не вызваляюць палітвязняў, кандыдаты ад апазіцыі здымаюцца.

Калякін, які спачатку быў за ўдзел у выбарах, пагадзіўся далучыцца да пазіцыі большасці. Аднак нечакана падпісанне пагаднення сарваў Віталь Рымашэўскі з Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

Афіцыйнай падставай для непадпісання стала тое, што Рымашэўскага запозна пазнаёмілі з тэкстам дакумента. Як заявіў журналістам Рымашэўскі, тэкст дэкларацыі быў падрыхтаваны Рухам «За Свабоду», але ўзгоднены не з усімі ўдзельнікамі кааліцыі. Тым не менш, Рымашэўскі адмовіўся патлумачыць, у чым заключаецца прынцыповае разыходжанне варыянтаў дэкларацыі. Нарада доўжылася прыкладна паўгадзіны.

Як стала вядома, гучныя выступы Рымашэўскага настолькі раззлавалі Аляксандра Фядуту з «Гавары праўду», што той даў яму выспятка. «Рымашэўскі толькі піярыцца, займаецца самапіярам, больш нічога не робіць. Хлопчык не ўмее сябе паводзіць, недастаткова выхаваны чалавек. Ёсць рэчы, якія я не збіраюся дараваць. Думаю, што я здзейсню мару многіх беларусаў, што цікавяцца палітыкай, — даць выспятка зарэгістраванаму кандыдату ў прэзідэнты», — кажа А.Фядута.

Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч кажа, што менавіта гэты тэкст раней абмяркоўваўся на пасяджэннях кааліцыі. У выніковым варыянце, паводле яго слоў, сталі больш ясна прапісаны палажэнні аб умовах, што выстаўляюцца ўладам, а таксама аб зняцці кандыдатаў у дэпутаты перад датэрміновым галасаваннем.



СЯРГЕЙ БАЛАЙ, «САЛІДАРНАСЦЬ»

Губарэвіч сказаў у размове з «НН», што сітуацыя нагадвае вылучэнне адзінага кандыдата ад Беларускага незалежніцкага блоку ў 2010 годзе. Тады таксама БХД урэшце заблакавала працэдуру.

Лідар АГП Анатоль Лябедзька больш аптымістычны. Ён паведаміў, што ўдзельнікі кааліцыі паспрабуюць правесці новы раўнд перамоваў і ўсё-такі ўзгадніць тэкст.

Паводле дэкларацыі, удзельнікі кааліцыі зыходзяць з таго, што ў краіне адсутнічае легітымны механізм выбараў.

Разам з тым палітыкі мяркуюць, што прапісаная ў заканадаўстве працэдура — адзіная законная магчымасць тры месяцы штодзень весці «поўнамаштабны дыялог» з выбаршчыкамі — не толькі даваць ацэнкі таго, што адбываецца ў краіне, але і выслухаць людзей».

«Нават для паўнацэннай арганізацыі байкоту нам неабходна вылучаць сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі, арганізоўваць назіранне, а калі неабходна, і вылучаць кандыдатаў», — зазначаецца ў дакуменце.

«Мы будзем заклікаць усіх прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці Беларусі зняць свае кандыдатуры пасля выкарыстання ўсіх магчымасцяў агітацыйнай кампаніі за тыдзень да пачатку датэрміновага галасавання ў выпадку, калі да гэтага часу ўсе 15 палітзняволеных не будуць вызваленыя або ў краіне з'явяцца новыя палітычныя зняволеныя», — падкрэсліваецца ў дэкларацыі.

Парламенцкія выбары ў Беларусі павінны прайсці не пазней за 25 верасня. Выбарчая кампанія пачнецца ў чэрвені.

**Зміцер Панкавец**

## Фальш

**Рубінаў: Краіне патрэбная сістэмная апазіцыя**

Пра гэта старшыня савета рэспублікі Анатоль Рубінаў заявіў у праграме «Карціна свету» на канале «РТР-Беларусь».

«Вядома, краіна мае патрэбу ў тым, каб палітычная сістэма развівалася, і там быў бы іншы пункт гледжання — апазіцыя. Павінна быць абавязкова. Любая краіна не можа нармальна развівацца, калі ў яе ёсць адзіны пункт гледжання, якой бы яна ні была добрай ці якім бы бясспрэчным ні здаваўся аўтар гэтага пункта гледжання. Але калі няма магчымасці агучваць нейкія альтэрнатыўныя прапановы, крытыку, пытанні задаваць нязручныя, то і развіцця не будзе. Гэта ж ясна. Таму пытанне пра тое, каб у нас была сістэмная апазіцыя, — найважнейшае пытанне нашай палітычнай сістэмы. На жаль, у нас сёння ўсё на плошчах, штурмы і гэтак далей, нейкія лозунгі і лаянкі. А вось нармальная апазіцыя з грунтоўна прадуманым пунктам гледжання, якая хай і супрацьстаіць таму, што прапануецца…»

Рубінаў заявіў, што сістэмная апазіцыя павінная быць у парламенце, і падтрымаў пераўтварэнне «Белай Русі» ў партыю.


PHOTO.BYMEDIA.NET

**Праваабаронца Алег Воўчак адсядзеў чацвёра сутак у ізалятары на Акрэсціна. У пятніцу яго арыштавалі за «дробнае хуліганства», нібыта лаяўся матам. Алег Воўчак — былы афганец, працаваў у пракуратуры. Пасля сыходу з дзяржаўных органаў займаўся гучнымі справамі. Прычым не толькі палітвязняў, але звязаных з арыштаванымі сілавікамі. Ён актыўна дапамагаў Аляксандру Казуліну, а пасля Міколу Аўтуховічу, з якім яго яднаў афганскі вопыт.**

# Русіфікацыя: новы крок

Універсітэты **спыняюць набор** на беларускую філалогію.

У Магілёве больш не будуць рыхтаваць педагогаў беларускай, а ў БДПУ закрытыя адразу 4 спецыяльнасці беларускай філалогіі.

У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце вялікая рэформа — зачыняюцца сем педагагічных спецыяльнасцяў. Дзіўным чынам супала, што на чатырох з іх рыхтавалі менавіта філолагаў беларускай мовы. Пры гэтым набор на спецыяльнасці, на якіх рыхтуюцца расейскамоўныя філолагі, не скарочаны.

У прыватнасці, у наступным годзе БДПУ адмовіцца ад падрыхтоўкі педагогаў па спецыяльнасцях «Беларуская мова і літаратура», «Беларуская мова і літаратура. Нямецкая мова», «Беларуская мова і літаратура. Англійская мова», а таксама спецыялістаў па беларускамоўнай журналістыцы.

Акрамя гэтага, ва ўніверсітэце прыпыняюць навучанне гісторыкаў-географаў. Цяпер галоўны педагагічны ўніверсітэт краіны будзе рыхтаваць настаўнікаў беларускай мовы толькі на дзвюх спецыяльнасцях. Расейскай мове будуць навучаць на трох спецыяльнасцях, дзве з якіх звязаныя для прэстыжнасці яшчэ і з кітайскай і італійскай мовамі.

Выпадак з БДПУ — не адзіны. Напрыклад, Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Аркадзя Куляшова нядаўна абвясціў, што збіраецца адмовіцца ад прыёму студэнтаў на шэраг гуманітарных спецыяльнасцяў. У лік зачыненых трапіла і спецыяльнасць з профільнай беларускай мовай.

Па рэкамендацыі Мінадукацыі магілёўскі ўніверсітэт таксама плануе скараціць лік бюджэтных месцаў для эканамістаў, юрыстаў, журналістаў і настаўнікаў фізкультуры.

Чаму ўніверсітэты адмаўляюцца ад набору на спецыяльнасці, звязаныя менавіта з беларускай мовай? Нядаўна Міністэрства адукацыі запатрабавала ад ВНУ скараціць набор на педагагічныя спецыяльнасці на 14%. Гэтым можна патлумачыць агульны трэнд на адмову ад прыёму будучых выкладчыкаў. Але аналіз папулярнасці настаўніцкіх спецыяльнасцяў дае несуцяшальную карціну.

У тым самым Педагагічным ўніверсітэце ўступная кампанія мінулага года на факультэце беларускай і расейскай філалогіі скончылася фактычным правалам.

Не знайшлося ахвотных вучыцца на пяці бясплатных месцах спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура. Нямецкая мова» і чатырох чалавек на бюджэт для спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура. Расейская мова і літаратура». Дарэчы, менавіта ад набору на гэтыя спецыяльнасці сёлета адмаўляюцца ў БДПУ.

Заробкі настаўнікаў малыя, таму людзі і не ідуць. Што да беларускай мовы, то грамадства тонка адчувае курс уладаў.

Беларускамоўнаму чалавеку няма як спадзявацца на кар'еру ў дзяржаўных органах. За 10 гадоў між апошнім і перадапошнім перапісамі колькасць людзей, якія размаўляюць дома пабеларуску, скарацілася амаль удвая, з 37% да 23%.

Таму не лепшая сітуацыя і ў іншых ВНУ краіны. Напрыклад, у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце: там на спецыяльнасць «Беларуская мова і літаратура. Замежная мова (англійская)» філфака ў 2011-м ніводзін абітурыент так дакументаў і не падаў. Вучыцца на выкладчыка ніхто не пажадаў, і 9 бюджэтных месцаў засталіся вольнымі. Верагодна, у 2012 годзе БрДУ таксама адмовіцца ад набору на гэту спецыяльнасць.

Можна канстатаваць: калі Аляксандр Лукашэнка застанецца пры ўладзе яшчэ доўга, беларускую мову чакае цяжкая доля.

**Мікола Бугай; generation.by**

# «Колькі вы зарабляеце?»

Працяг са старонкі 1.

### Праграмісты як рухавікі статыстыкі

Самымі багатымі аказаліся праграмісты, што не на жарт абурыла прадстаўнікоў іншых прафесій. Адказы накшталт «больш за 40 мільёнаў. Усё добра!», «Я праграміст, у студзені зарабіў 23,2 мільёна рублёў», «праграміст. Па курсе каля 35 мільёнаў рублёў. Падаткі не плачу. Зімую ў цёплай краіне» гучалі нярэдка. Але варта ўдакладніць, што праграмісты з дзяржустаноў называлі лічбы і 2, і 3 мільёны.

Не скардзіліся на жыццё прадпрымальнікі і работнікі некаторых прыватных прадпрыемстваў: «40—70 мільёнаў, прадпрымальнік. Ганарыцца не хачу, у дактарах людзі разумнейшыя за мяне за капейкі працуюць, але і саромецца не стану. Усё ў вашых руках, сябры!», «6,5 мільёна. Менеджар прыватнага прадпрыемства сярэдняга памеру». Спаборнічаць з імі можа хіба што кіраўніцтва дзяржаўных прадпрыемстваў.

### Наш сярэдні клас

Пералічаных вышэй работнікаў можна было б назваць сярэднім класам у міжнародным разуменні — яны могуць дазволіць сабе адпачываць штогод за мяжой і час ад часу мяняць аўтамабіль. Але ў Беларусі пад сярэднім класам часцяком разумеюць тых, хто мае хаця б заробак Белстата — тыя самыя $500 ці нешта накшталт таго. Гэта дазваляе, прынамсі, не клапаціцца, як пражыць да наступнага заробку. З іх мала хто працуе на дзяржаву: «Юрыст на прыватным прадпрыемстве — 3,5 мільёна рублёў», «дызайнер у паспяховым прыватным выдавецтве — 3 мільёны», «3,8 мільёна — галоўны бухгалтар + сакратар». Асабняком стаіць падпалкоўнік КДБ, які пераконваў, што мае 3,7 мільёна, і маёр войска з 3,4 млн.

### Незалатая сярэдзіна

Самая шматлікая група нашых чытачоў — тыя, хто маюць ад 2 да 2,5 мільёна рублёў, гэта $250—300. Тут і мытнік з сямігадовым стажам, які зарабляе 2,05 мільёна рублёў, і журналіст з дзяржаўнай газеты (2,3 мільёна), і электрык (2,5 мільёна), і інжынер-канструктар на будоўлі (2,1 мільёна). Каля 2,5 мільёна маюць і чыгуначнікі, і страхаўшчыкі, і эканамісты.

У такім прамежку і знаходзіцца медыянны заробак чытачоў сайта «Нашай Нівы». Справа ў тым, што існуе іншы падыход да вылічэння заробку, апроч «сярэдняга». Калі адзін чалавек атрымлівае 20 мільёнаў, а яшчэ восем чалавек па 2 мільёны, то ў сярэднім яны будуць мець нібыта па 4 мільёны рублёў. Пры падліку медыяннага заробку падлічваюцца грошы, атрыманыя сярэднім беларусам. У апісанай вышэй сітуацыі медыянны заробак складзе 2 мільёны рублёў. Шкада толькі, што Белстат рэдка праводзіць такія даследаванні.

### На мяжы пражытковага мінімуму

На адваротным баку фінансавага поля сітуацыя выглядае маркотнай: «Актор — нацыянальны тэатр. 1,5 мільёна :(». Настаўнік прызнаўся, што мае заробак 1,7 мільёна, а выхавацелька ў дзіцячым садку напісала, што атрымлівае 1,1 мільёна рублёў: «Не хапае нават на ежу, добра, хоць ем у садку раз на дзень». «У мяне заробак — 570 тысяч. У мужа — каля мільёна. Як пракарміць трох дзяцей?» — задае рытарычнае пытанне шматдзетная маці з райцэнтра.

Асобную катэгорыю складаюць ахвяры размеркавання. Маладыя спецыялісты вымушаныя за бясцэнак батрачыць як мінімум два гады. Вось і сустракаюцца сярод чытачоў стаматолагі з заробкам 1,2 мільёна рублёў.

**Ягор Марціновіч**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**У канцы года заробак будзе зноў $500?**

Спікер Уладзімір Андрэйчанка хоча да канца года выйсці на ўзровень прыбыткаў канца 2010-га. Ён заявіў, што на працягу гэтага года зарплаты і пенсіі будуць павялічвацца неаднаразова. Каб выканаць планы Андрэйчанкі, беларусы павінны атрымліваць каля 5 мільёнаў рублёў. Такі ліхаманкавы рост заробкаў, аднак, можа прывесці да чарговай дэвальвацыі і скачка інфляцыі — як было і летась.

**Колькі трэба зарабляць, каб годна жыць?**

Паводле Белстата, сярэдні заробак у Мінску дасягнуў 3,8 млн рублёў. Людзі на вуліцах горада дзівяцца, з якой столі ўпала гэтая лічба. Мы распыталі, які сярэдні заробак у Мінску па меркаванні жыхароў сталіцы.


— Па-рознаму ёсць: у каго па 5 млн, а ў каго і 500 тыс.


— Z атрымліваю вельмі мала ў дзяржаўнай структуры. У мяне сярэдні заробак — 1 млн — 1млн 200 тыс.


— У мяне дачка мае дзве вышэйшыя адукацыі, атрымлівае 780 тысяч рублёў. Сярэдні заробак на камерцыйных фірмах меншы за 200 даляраў.


— Я як медыцынскі работнік атрымліваю 2 млн.


— Я думаю, мільёнаў пяць у сярэднім.

— Ты што, Лена, у мяне дачка працуе ў вышэйшай навучальнай установе і болей за 1,5 млн яна не атрымлівае. Каб пяць, то я такога не ведаю.

— Вісіць на гастраноме, што патрабуецца грузчык за 2 млн 300 тыс.

— У нас у «Акіяне» таксама вісіць. Насамрэч грузчык і прадавец атрымліваюць болей чым выкладчык ВНУ.

**Колькі трэба зарабляць, каб годна жыць?**


— Не ведаю як у Мінску, але ў маім горадзе хаця б 1—2,5 млн.


— Улічваючы, што ў нас маленькае дзіця, патрэбна мільёнаў пяць. Яму ж трэба многа ўсяго набываць, а ўлічваючы, колькі каштуюць прадукты цяпер…


— Колькі ні маеш — заўсёды мала, але мне падаецца менш за пяць — гэта проста нерэальна.


— Мы пенсіянеркі. Колькі нам трэба, пенсіянеркам? Каб пражыць ды летам хаця б два тыдні адпачыць у Беларусі — мінімум 4 мільёны.

— А як жа лекі, Леначка?

— У 4 млн я ўпішуся.

— Ну калі толькі вельмі сціпла…

— Калі дзяржава 4 млн дасць, я скажу: дзякуй, не дарма працавала, не паміраю, пралячуся. А так — паміраем марудна.


— Да 3,5 можа і хапіла б пражыць больш-менш. Калі не будзе нічога даражэць, то яшчэ можна пражыць. Але калі будзе даражэць, то трэба, каб дабаўлялі трошку пенсіі і заробак.


— Трэба ўлічваць абстаноўку ў Беларусі, бо зараз крызіс і не трэба патрабаваць высокага заробку.

**Настасся Шамрэй**

## Колькі складзе «эканамічна абгрунтаваная» квартплата?

**За двухпакаёўку зімой давядзецца выкласці 250 тысяч рублёў.**

Тарыфы на паслугі ЖКГ, калі яны не вырастуць у найбліжэйшы час, могуць перашкодзіць Беларусі атрымаць чарговую частку крэдыту ЕўрАзЭС. Сярод абяцанняў, не выкананых уладамі, людзей наўпрост датычыць рост тарыфаў на праезд і паслугаў ЖКГ.

Пытанне аб выдзяленні $440 мільёнаў будзе разглядацца ў канцы лютага, таму да таго часу тарыфы мусяць павялічыцца. «Сталічны транспарт і сувязь», напрыклад, ужо гатовы прадаваць талоны і жэтоны за 1800 рублёў.

Цяпер слова за камунальнікамі. Яны пераконваюць, што беларусы плацяць менш за трaціну ад «эканамічна абгрунтаных стратаў». Але колькі ад поўнага тарыфу насамрэч кампенсуе насельніцтва?

Для разлікаў «Наша Ніва» ўзяла двухпакаёвую кватэру агульнай плошчай 50 квадратных метраў, у якой зарэгістравана двое чалавек. Мы параўналі лічбы са снежаньскай жыроўкі з тымі, да якіх апелююць чыноўнікі.

| | Існуючы тарыф* | «Эканамічна абгрунтаваны» тарыф | Квартплата ў двухпакаёўцы | «Эканамічна абгрунтаваная» квартплата |
|---|---|---|---|---|
| Тэхабслугоўванне, кв.м | 350 | 797,5 | 17 500 | 39 875 |
| Капітальны рамонт, кв.м | 350 | 797,5** | 17 500 | 39 875 |
| Ацяпленне, Гкал | 53 773 | 108 468,7 | 46 215 | 93 230 |
| Вада—каналізацыя, куб.м | 890 | 2 545 | 3 390 | 9 695 |
| Падагрэў вады, Гкал | 53 773 | 108 468,7 | 4 900 | 9 885 |
| Вываз смецця, куб.м | 13 439 | 13 439 | 4 010 | 4 010 |
| Абясшкоджанне смецця, куб.м | 3 426 | 3 426 | 1 020 | 1 020 |
| Плата за ліфт, з чалавека | 1 700 | 3 867,9 | 3 400 | 7 735 |
| Радыёкропка | 1 000 | 1 000 | 1 000 | 1 000 |
| Тэлебачанне, за сацыяльны канал | 190 | 190 | 1 140 | 1 140 |
| Тэлебачанне, за астатнія каналы | 600 | 600 | 11 400 | 11 400 |
| Электраэнергія, кВт/г, электраплiта | 202,6 | 368,3 | 16 200 | 29 465 |
| УСЯГО | | | 127 680 | 248 330 |

*дадзеныя на снежань 2011 года

**адлічэнні на капітальны рамонт роўныя адлічэнням на тэхнічнае абслугоўванне

Як вынікае з табліцы, квартплата ў адной асобна ўзятай кватэры кампенсуе як мінімум 50% выдаткаў ЖЭСаў. Гэта істотна адрозніваецца ад афіцыйных лічбаў, што публікуюцца міністэрствам ЖКГ.

Калі б усе беларусы вярталі 100% ад кошту паслугаў, то найбольш па бюджэце сям'і біла б ацяпленне — амаль 100 тысяч рублёў зімой. Па гэтым паказчыку насельніцтва атрымлівае асноўную зніжку. Затое многія іншыя паслугі — нашы дарагія радыё і БТ, а таксама вываз і абясшкоджанне смецця аплачваюцца беларусамі цалкам.

**Ягор Марціновіч**

## Сціслa

### Беларусь просіць чарговы крэдыт у МВФ

«Наша прапанова — рэфінансаваць тую запазычанасць, якая ёсць у нас перад МВФ», — сказала старшыня Нацбанка Надзея Ермакова. Беларусь вінная $3,8 мільярда і не мае свабодных грошай, каб аддаць доўг.

### Легендарная даярка ўладкавалася ў «Еўраопт»?

Касіркі сеткі крамаў «Еўраопт» зарабляюць да 8 мільёнаў рублёў ($950), а мінімальны заробак мінскіх касірак складае 3,2 мільёна, пахваліўся дырэктар кампаніі Андрэй Зубкоў. Яшчэ ў 2009 годзе Аляксандр Лукашэнка пераконваў расійскіх журналістаў, што даяркі ў Беларусі зарабляюць па $1000. Можа, тая самая залатая даярка перайшла ў «Еўраопт»?

### «Мілавіца» страціла праз Мытны саюз больш за $3 мільёны

Да ўступлення ў сілу правілаў Мытнага саюза сярэдняе мыта на імпартаваныя матэрыялы складала для «Мілавіцы» 4,5%. З 2010 года яно вырасла да 12,5%, да узроўню Расіі. Цяпер прадпрыемства ініцыюе вяртанне згубленых прэферэнцый.

**ЯМ**

# Байцоўскія сабакі: забараніць ці дазволіць?

Прыхільнікі і праціўнікі гэтых парод сабак сыходзяцца ў адным — **адказнасць** за гадаванцаў **нясе гаспадар**.

Дзесяцігадовую Сашу Ладычыну з Віцебска сур'ёзна пакусаў ратвейлер, якога гаспадыня выгульвала ў двары жылога дома. Дзяўчынка не заўважыла жанчыну з сабакам, што стаялі проста на сцежцы. Саша падышла занадта блізка, і сабака кінуўся на яе. Дзяўчынку выратаваў сусед, які шуфлем адбіў сабаку.

Гаспадыня сабакі была фізічна не здольная ў крытычны момант абараніць дзяўчынку ад свайго гадаванца, які, да ўсяго, быў без намордніка.

Падобныя гісторыі заўсёды выклікаюць рэзананс. Грамадская думка ў такія моманты часта падзяляецца. Адны выступаюць за забарону «небяспечных» парод сабак, іншыя — за павышэнне адказнасці іх гаспадароў.

## Сабачы «чорны спіс»

У Беларусі існуе ўласны пералік патэнцыйна небяспечных парод сабак. Пры канцы 2004-га Мінсельгасхарч выдаў пастанову «Аб некаторых пытаннях развядзення, утрымання і завозу ў РБ, а таксама навучання ўласнікаў патэнцыйна небяспечных парод сабак». У адпаведнасці з гэтым дакументам уладальнікі такіх сабак павінны ў трохмесячны тэрмін прайсці курсы ў кіналагічных клубах, каб атрымаць адпаведную даведку.

Сёлета парламент можа прыняць Закон «Аб абыходжанні з жывёламі». У праекце закона спіс патэнцыйна небяспечных парод вырас ад 40 да 46.

Калі закон прымуць, сабак гэтых парод забароняць трымаць у кватэрах. А гаспадарам — абавязкова паўналетнім — трэба бу-дзе атрымаць медычную даведку пра адсутнасць у іх псіхічных захворванняў, алкагольнай або наркатычнай залежнасці.

Праект закона замацоўвае неабходнасць атрымання ў кіналагічнай арганізацыі адмысловага сертыфіката. Падобная практыка ўкараняецца ў суседняй Расіі.

Абаронцы сабак выступаюць супраць будучага закона. Яны крытыкуюць «чорны спіс», у які, па іх словах, беспадстаўна запісалі большасць парод.



Існуюць сабачыя баі і ў Беларусі.

«Чаму сабаку біцца з сабакам нельга, а парваць лісу на паляванні можна?»



Часта «небяспечных» сабак выгульваюць тыя, хто не зможа даць ім рады ў крытычны момант.

## Не спісы парод, а гаспадароў

Старшыня грамадскага аб'яднання аховы жывёл «Эгіда» Наталля Бялянава расказала, што яе арганізацыя шчыльна працавала са спісам. На кожную пароду склалі падрабязную характарыстыку, вызначыўшы, хто можа ўтрымлівацца ў кватэры, а каго варта трымаць у вальеры ў двары. Эксперты прызнаюць, што некаторыя пароды насамрэч уяўляюць небяспеку і іх неабходна стэрылізаваць і абмежаваць іх увоз у краіну. Аднак, па словах Н. Бялянавай, распрацоўшчыкі праекта закона праігнаравалі прапанаваныя «Эгідай» матэрыялы. Больш за тое, спіс не толькі захаваў бяскрыўдныя і дэкаратыўныя пароды, але і папоўніўся новымі.

Бялянава мяркуе, што небяспеку ў першую чаргу нясуць не сабакі, а іх гаспадары. А таму неабходна пашыраць не спісы парод, а пералік патрабаванняў да іх гаспадароў. «Часта сабакі небяспечных парод трапляюць да асацыяльных гаспадароў». Абаронцы сабак, у тым ліку і «Эгіда», выступаюць за спыненне бескантрольнага развядзення беспародных сабак і катоў у хатніх умовах. «Такая практыка існуе на Захадзе», — адзначае Наталля Бялянава.

«Эгіда» падрыхтавала адкрыты зварот да Аляксандра Лукашэнкі, у якім просіць перагледзець праект закона і ўнесці ў яго прапановы сабакаводаў.

Наталля закранула і пытанне пляцовак для выгулу сабак. Старшыня «Эгіды» кажа, што праблемай з'яўляецца не толькі мізэрная колькасць такіх месцаў, але таксама іх практычная функцыянальнасць. «Большасць пляцовак абы-якія. А тыя, што будуюцца, не разлічаныя на сучасныя патрэбы».



**Ратвейлераў вывелі немцы**

Гэтую пароду сабак вывелі ў нямецкім горадзе Ротвайль, адсюль і назва. Першапачаткова з ратвейлерамі хадзілі на дзіка. Пазней гэты сабака дапамагаў пастухам.

Ратвейлеры вылучаюцца імгненнай рэакцыяй і моцным дамінаваннем. У выхаванні сабак гэтай пароды неабходны ўдзел прафесійнага кінолага.

У 2001 «Беларусьфільм» зняў стужку «Павадыр», адну з галоўных роляў у якім атрымаў ратвейлер (у фільме — Хлопчык).

## Сабакі хочуць спадабацца гаспадару

Кінолаг Надзея Керн займаецца байцоўскімі сабакамі. Яна сцвярджае, што на сёння не існуе ніводнай замацаванай пароды байцоўскіх сабак. І тлумачыць магчымыя прычыны стварэння міфаў вакол пітбуляў, якім прыпісваюць самыя змрочныя характарыстыкі. Піт-спорт існуе ва ўсім свеце, сабачыя баі нелегальна ладзяцца і ў Беларусі. Слова «піт» — у перакладзе з англійскай мовы «яма» — у літаральным сэнсе азначае месца сабачага бою. Па словах Надзеі, пітавымі сабакамі могуць быць прадстаўнікі многіх парод. «Калісьці ў сабачых баях удзельнічалі нават пудзелі».

Галоўнае тут не парода, а якасці сабакі: імкненне прадэманстраваць сваю адвагу, перамагчы і гэтым спадабацца гаспадару. Для такіх сабак характэрная невераготная вынослівасць і нізкі болевы парог. Вопытны селекцыянер, які выявіць гэтыя якасці, можаператварыць у жорсткага байца не толькі тэр'ера, але і многіх іншых.

Надзея Керн лічыць несправядлівай практыку забароны сабачых баёў. «Чаму ў нас нельга сабаку біцца з сабакам, але можна парваць лісу на паляванні? Паляўнічых сабак вучаць гэтаму, фактычна культывуюць у іх байцоўскія якасці. І ўсё гэта — легальна».

«Гаспадары байцоўскіх сабак цалкам ігнаруюць правы і бяспеку іншых»

Кінолаг звяртае ўвагу на адсутнасць адпаведнага этыкету ў большасці гаспадароў сабак. «Праблема ў тым, што ў нас занадта проста набыць такіх сабак. Часта гэта робіцца для задавальнення амбіцый, для прэстыжу». І пры гэтым новыя гаспадары не задумваюцца пра наступствы свайго легкадумства.

«Людзі не баяцца штрафаў, ігнаруюць правілы — і гэта датычыць не толькі ўтрымання сабак».

Выйсце адно, мяркуе Надзея: трэба выхоўваць людзей уласным прыкладам — прытрымлівацца правілаў і мераў бяспекі.

«Я сама вельмі хачу, каб пітаў, стафаў, ратвейлераў было менш. Каб імі ў большасці валодалі спецыялісты, а не аматары», — кажа Надзея Керн.

## «Трэба забараніць небяспечных сабак»

Гісторык Алесь Белы дапускае, што пэўныя пароды сабак могуць быць патрэбныя для выканання нейкіх спецыфічных функцый. Напрыклад, службовыя сабакі. Але пры выкананні мераў бяспекі, якія, пераканаты ён, могуць забяспечыць толькі дзяржорганы. Калі ж гаворка ідзе пра аматараў, якія трымаюць ратвейлераў у кватэрах, то тут патрэбныя захады аж да крымінальнай адказнасці, лічыць сп. Белы. Ён параўноўвае сітуацыю з вырабам наркотыкаў. Дзяржава дэлегуе выраб наркатычных сродкаў на медыцынскія патрэбы профільным установам і пры гэтым забараняе вырабляць наркотыкі простым грамадзянам.

«Адкуль гэтая маса аматараў? Гэта наступствы гіперспажывецтва. Часам такімі людзьмі кіруе прыхаванае пачуццё ўсёдазволенасці. Яны цалкам ігнаруюць правы і бяспеку іншых», — кажа гісторык.

**Сямён Печанко**

**Пералік патэнцыйна небяспечных парод сабак**

1. Аўстралійскі кабановы сабака
2. Айну
3. Акбаш
4. Амерыканскі пітбультэр'ер
5. Амерыканскі стафардшырскі тэр'ер
6. Анаталійскі карабаш
7. Англійскі мастыф
8. Бельгійскі мастыф
9. Бардоскі дог
10. Булі Кута
11. Бульмастыф
12. Бультэр'ер
13. Бэндог
14. Усходнееўрапейская аўчарка
15. Горскі ганчак
16. Грэчаская аўчарка
17. Даберман Уладака Рошыны
18. Даберман-пінчар
19. Каўказская аўчарка
20. Канарскі дог
21. Кангал
22. Кане-корса
23. Кенгуровы сабака
24. Камандор
25. Карэльскі мядзведжы сабака
26. Лангедокскі пастушыны сабака
27. Леапардавы ганчак
28. Марэма
29. Мальёркскі бульдог
30. Маскоўскі вартавы
31. Неапалітанскі мастыф
32. Нямецкі дог
33. Аўчарка Даўфмана
34. Пірынейскі мастыф
35. Рафейру ду алентэжу
36. Рызэншнаўцэр
37. Ратвейлер
38. Румынская аўчарка
39. Сярэднеазіяцкая аўчарка
40. Супердог і яго помесь з майконгам
41. Тыбецкі мастыф
42. Тоса-іну
43. Уругвайскі сімарон
44. Філа бразільера
45. Чорны тэр'ер
46. Паўднёваруская аўчарка




10-гадовую Сашу Ладычыну з Віцебска пакусаў ратвейлер.

# Не працягнулі кантракт праз васямнаццаць гадоў працы

Віктар Рачкоў пазбавіўся **пасады экспедытара**.

Віктар працаваў на Гомельскім вінаробным заводзе экспедытарам і кладаўшчыком. У кастрычніку летась яму не працягнулі кантракт. Па словах мужчыны, спачатку яго выклікаў да сябе дырэктар завода Сяргей Краўчанка. І сказаў, што месца экспедытара патрабуецца для работніка, які пацярпеў на вытворчасці. Віктару ж прапанавалі пайсці на месца таго чалавека — слесарам.

Адмаўляцца не выпадала, хаця новае месца і было паніжэннем. Віктар адправіўся праходзіць медыцынскую камісію. А там высветлілася, што ў яго гіпертанія. І працаваць слесарам ён не можа. Пакуль доўжылася абследаванне, паўторныя аналізы — 31 кастрычніка мужчыну звольнілі.

Сп.Рачкоў адзначае, што яго месца аддалі былому слесару, які пацярпеў падчас выбуху на заводзе 24 жніўня. Па словах Віктара, выбухнула ёмістасць для пастэрызацыі віна. Гэты факт афіцыйна не быў зафіксаваны, але мужчына сцвярджае, што сам быў сведкам таго.

Рачкова ў выніку ў пракуратуры папярэдзілі аб адказнасці за распаўсюджванне хлусьлівай інфармацыі. Апыталі работнікаў, дырэктара. Ніхто не пацвердзіў выбух. А сведкі Віктара — работнікі завода, звольненыя пасля 24 жніўня, — не зацікавілі пракуратуру. Мужчына адзначае, што нават да запісаў камер знешняга назірання не звярнуліся. А на іх, ён упэўнены, павінна быць зафіксавана, як у вокнах на трэцім паверсе вылятала шыба, як спалоханыя людзі выбягалі на вуліцу. З АУС Чыгуначнага раёна Гомеля наконт камер прыслалі адказ: «Выняць дадзеную інфармацыю [з камер] не бачыцца магчымым з-за адсутнасці спецыяльнага абсталявання». Звольненага работніка такі адказ абурае. «Якое ім патрэбна абсталяванне? Флэшка, дыск?»

Пасля звальнення жыхар Гомеля пачаў перапіску з дзяржорганамі: аблвыканкам, Камітэтам дзяржкантролю, Дэпартаментам інспекцыі працы. Зразумела, фармальна закон не парушаны. Кантракт скончыўся — права адміністрацыі завода яго не працягнуць. Але Віктар патрабуе тады аргументаваць адмову. На прыёме ў намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкама дырэктар завода звальненне патлумачыў тым, што Віктар нібыта ў гаражы прадаваў спірт. А спірт краў з працы. Але доказаў дырэктар не прадставіў. Тады сышліся на тым, каб Рачкова вярнуць на завод на пасаду апрацоўшчыка сусла. Але на такую працу ён не падыходзіць па стане здароўя.

Мужчына спрабаваў працаўладкавацца ў іншых месцах. Але праз праблемы са здароўем ён моцна абмежаваны ў выбары. У адной фірме знайшоў вакансію кладаўшчыка. Прайшоў сумоўе. Але праз два дні перазванілі і сказалі, што не возьмуць.

Віктар разумее, што вярнуцца на вінаробны завод ужо не здолее. Калі б і ўзялі назад, працаваць спакойна не далі б. Але сваімі скаргамі хоча дамагчыся незалежнага расследавання ўсіх парушэнняў, у іх указаных. Бо пісаў ён і пра злоўжыванні кіраўніка прадпрыемства. Ён хоча толькі, каб усё было па законе. І каб яго прыклад стаў падставай для пэўных змяненняў у адносінах працадаўцы-наймальніка.

**Сяргей Макарэвіч**



Віктар Рачкоў адстойвае свае правы.

**Дырэктар завода: Зрабіце запыты ў тыя структуры**

Рэдакцыя патэлефанавала дырэктару Гомельскага вінаробнага завода Сяргею Краўчанку.

**«Наша Ніва»: З чым звязана, што Рачкову не працягнулі кантракт?**

**Сяргей Краўчанка:** Апошняя яго праца — экспедытар. Гэта перавозка ў асноўным спірту. Да яго былі заўвагі. У 2010 ён быў сумнеўным чалавекам. Я на адзін год працягнуў яму кантракт. А летась вырашыў не працягваць.

**«НН»: Якія былі заўвагі?**

**СК:** Захаванасць матэрыяльных каштоўнасцей.

**«НН»: За ім былі заўважаныя растраты?**

**СК:** Так. Не грашовыя. Матэрыял — спірт харчовы. Там — 200 грамаў, там — паўлітра.

**«НН»: Праверкі праводзілі ці запісы ў працоўную кніжку рабілі?**

**СК:** Не… Калі быць паслядоўным, я яму ўсё-ткі прапанаваў застацца. Працаваць на растарцы. Але ён як пайшоў з накіраваннем на медабследаванне, так і не вяртаўся.

**«НН»: Па-вашаму, навошта яму ўсе гэтыя скаргі пісаць на Вас?**

**СК:** Лічу, гэта яго такі характар. На ўсе заўвагі, звязаныя з перавозкай матэрыяльных каштоўнасцей, ён хваравіта рэагаваў, запальчыва.

**«НН»: У сваіх скаргах ён піша пра выбух на заводзе…**

**СК:** Усе гэтыя факты правяраліся. Можаце зрабіць запыты ў тыя структуры.

**СМ**

# На «Граніце» не рэгіструюць суполку незалежнага прафсаюза

Прычына — нібыта ў рэгістрацыйных дакументах **не хапае ўсіх папер**.

Адміністрацыя мікашэвіцкага «Граніта» адмовіла ў рэгістрацыі першаснай суполцы Беларускага незалежнага прафсаюза.

Старшыня БНП Мікалай Зімін расказаў «НН», што адказ падпісаны начальнікам юрыдычнага аддзела прадпрыемства. У ім гаворыцца, што адміністрацыя не атрымала поўны пакет неабходных для рэгістрацыі дакументаў.

«Гэта адпіска. Папершае, дзіўна, што нам адказаў не гендырэктар, а начальнік юрыдычнага аддзела. Па-другое, у тым адказе не гаворыцца, якіх канкрэтна дакументаў не хапае», — падкрэсліў Зімін. З моманту падачы заяўкі тым часам прайшло тры тыдні.

Па словах старшыні БНП, першапачаткова ў Лунінецкім райвыканкаме адмовіліся рэгістраваць суполку. Па той прычыне, што паўнамоцтвы выдзеліць юрыдычны адрас, неабходны для рэгістрацыі, мае толькі Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, якое з'яўляецца ўласнікам прадпрыемства. Мікалай Зімін дапускае, што з міністэрства маглі гэтыя паўнамоцтвы пераадрасаваць непасрэдна на «Граніт».

Нагадаем, што напрыканцы снежня 2011 года некалькі соцень рабочых РУВП «Граніт» выйшлі з афіцыйнага прафсаюза. З іх больш як 200 чалавек увайшлі ў суполку Беларускага незалежнага прафсаюза гарнякоў.

**Сямён Печанко**

# Маразоў палавіца

2 лютага — каталіцкія, 15-га — праваслаўныя **Грамніцы**.

Дакладная царкоўная назва свята — «Сустрэча Госпада нашага Ісуса Хрыста», «Срэценне» ў царкоўнаславянскай традыцыі.

Грамніцы — палавіна зімы. Грамніцы — маразоў палавіцы. Грамніцы — скідай рукавіцы...

Праўда, пакуль метэаролагі скідаць рукавіцы ды шапкі не раяць. 2 лютага на поўначы краіны чакаецца да –32С. Пацяпленне чакаецца ў нядзелю.

За выхадныя ў мінскія бальніцы з абмаражэннямі звярнуліся пяцёра чалавек. Траіх з іх давялося шпіталізаваць.

Ад марозаў пакутаюць не толькі людзі, але і жывёлы. Леў з віцебскага заапарка перажывае маразы ля печкі, а трусы грэюцца ў стозе сена.

**Лявон Максюта**




## Баскетбалістка Марчанка будзе працаваць у футбольным БАТЭ



**Спартыўная сям'я Бага—Марчанка цяпер будзе працаваць разам.**

Нядаўна яна вырашыла **завяршыць кар'еру**.

Тыдзень таму разыгрываючая зборнай Беларусі па баскетболе Наталля Марчанка абвясціла пра завяршэнне кар'еры.

Цяпер Наталля прызналася, што пераходзіць на працу ў футбольны БАТЭ. Там жа памочнікам Ганчарэнкі працуе і яе муж Аляксей Бага.

«Спачатку хацелася крыху адпачыць пасля цяжкага чэмпіянату Еўропы, таму ўзяла творчы адпачынак. Доўга думала, чым бы заняцца, пакуль не паступіла прапанова, ад якой я проста не магла адмовіцца. Анатоль Анатолевіч Капскі запрасіў на працу ў БАТЭ. Доўга я не думала», — кажа Марчанка.

«Цяпер з'яўляюся памочнікам старшыні праўлення, выконваю яго даручэнні. Да таго ж актыўна дапамагаю дачцэ Анатоля Анатолевіча — Алесі Капскай — у замежнаэканамічнай дзейнасці. Афіцыйна назву пасады змагу сказаць толькі пасля заключэння кантракта».

Некалькі разоў за сваю кар'еру Марчанка прызнавалася адной з найлепшых у сваім амплуа ў Еўропе. Была бронзавай прызёркай кантынентальнага першынства.

**Goals.by**

**Тэхналогіі**

## У Мінску пачаліся продажы iPhone 5G

У Мінску пачаліся продажы Apple iPhone 5G. Прычым навінка каштуе ўсяго $90. Аб'ява з такім зместам з'явілася на партале «З рук у рукі».

Варта заўважыць, што кампанія Apple такі тэлефон яшчэ не анансавала. Кошты ж на сапраўдныя iPhone'ы складаюць $500–1000.

**ЯМ**



Apple iPhone 5G на 2 сим! (Новинка. Октябрь 2011 г.) Ультратонкий! Поддержка Skype, Twitter, Wi-Fi, Java, Opera и многих других приложений. Новый. Гарантия. Доставка. — 90 $

предложение

Пожаловаться | Распечатать | В избранном

Все характеристики

Регион: Беларусь, Минск, Минск

Марка, Модель: Apple iPhone

Текст объявления

Apple iPhone 5G на 2 сим! Большой экран на 4.0 дюйма! Самый тонкий из всех видов iPhone. Поддержка Skype, Twitter, Facebook, Java, Opera, Wi-Fi и др. приложений! Дорогой встроенный сенсор! Фото-, видеокамера 3.2 Мрх. Чтение форматов MP3, MP4, mpeg, avi! Цветной TV(все каналы), FM радио. Высокоскоростной процессор, быстрый интернет! Хороший звук, встроенные стереодинамики! Заводская сборка! Максимальная комплектация! пластиковый чехол и трёхслойная защитная плёнка в подарок! Флеш-карта на 2 и 4 Гб! Официальная гарантия 36 мес. Доставка бесплатная!




## Вядучая СТВ дазволіла памацаць грудзі падчас эфіру

Ірына Ханунік-Рамбальская вядомая не толькі як тэлевізійная вядучая, летась яна заваявала тытул «Місіс Сусвет» на конкурсе ў Балгарыі.

У перадачы «Такі лёс» яна прапанавала гасцям памацаць яе грудзі, каб пераканацца, што яны не сіліконавыя.

«Я не думаў у той момант, ці яны сапраўдныя, ці не. Але гэта прыўкрасна ў любым выпадку», — падзяліўся потым эксперт.

«Я ніколі не павялічвала грудзі. Нават хацела іх зменшыць», — не сунімалася Ханунік-Рамбальская.

Хто меў рацыю, а хто не, гледачы так і не даведаліся.

**Сямён Цыбульскі**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Вера і праўда

На мінулым тыдні лідары ФПБ сустрэліся з кіраўніцтвам Савета ветэранаў і паведамілі, што прафсаюзы сабралі 270 мільёнаў рублёў на будаўніцтва новага будынка музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Але нешта замінала радавацца чарговаму «вялікаму пачыну». Адна справа, калі народ сам аддае грошы, другая — калі іх адбіраюць.

Ці, можа, гэта не так? Можа, і сапраўды, людзі самі пачалі аддаваць свае апошнія кроўныя на «народную будоўлю»?

Трохі разгублены ўласным сумневам, я вырашыў шукаць адказ у самім музеі.

У Веры...

...Першымі сустрэлі на ўваходзе нейкія пляскатыя выявы партызан, выразаных з фанеры ці з кардону. Апранутыя ў спраўныя кажушкі, з чырвонымі лентачкамі на шапках, з аўтаматамі ППШ... Ну, проста ансамбль песні і скокаў... Нешта падобнае я бачыў на святкаванні 50-годдзя БССР, калі маршыравалі «партызаны» ў белых кажушках. Потым адбыўся скандал — рабочыя аднаго завода паскардзіліся, што кіраўніцтва адбірае ў іх кажушкі, абяцаныя ў падарунак за ўдзел у тым маршы...

Я доўга хадзіў па залах амаль у поўнай адзіноце, углядаючыся ў даўно знаёмыя і незнаёмыя здымкі, дакументы і рэчы. І сёння яны дыхаюць такой жудаснай і адначасова такой шчымлівай сапраўднасцю!

Але чаму вось гэтыя юнакі ледзь не з рогатам здымаюць адзін аднаго на фоне брамы з Трасцянца?! За брамай попел спаленых, косткі... Чаго не стае хлопцам, каб устрымацца ад блюзнерскай спакусы рабіць трагедыю фонам?..

Я прайшоў праз усе залы, потым вярнуўся і зноў прайшоў. Але Веры нідзе не было.

...Вера з Апанасам працавалі настаўнікамі ў вёсцы Сямёнавічы непадалёк ад Узды. Ад пачатку вайны Апанас пайшоў на фронт, а Вера засталася з двухгадовай Святланкай. Гестапаўцы схапілі Веру 24 чэрвеня 1944-га, за тры дні да вызвалення. Потым яе, люта збітую, бачылі ва ўздзенскай турме. Потым — разарванай сабакамі і распнутай на сцяне нейкага хлява. Потым ніхто ўжо яе не бачыў. Нідзе і ніколі...

### Але Веры нідзе не было

Засталася ад Веры толькі адна фотакартка — са студэнцкага білета Мінскага педвучылішча. З гэтай фотакарткі потым зрабілі трохі большую, яна віселa ў музеі Айчыннай вайны побач з аднайменным ордэнам, якім Веру ўзнагародзілі за сувязь з партызанамі. Яна і была ўсю вайну сувязной...

Апанас вярнуўся жывым, зноў ажаніўся, працаваў настаўнікам, разводзіў пчол... І доўга шукаў таго, хто данёс. Не знайшоў...

...Я ўспомніў раптам, як Янак вадзіў мяне ў лес. Па дарозе мы натрапілі на спалены хутар. Непадалёк стаяў самаробны драўляны крыж, на ім шыльда — ад рукі, чорнымі няроўнымі літарамі: «Тут пахаваны...» Я пачаў перапісваць усе прозвішчы, дарослых — з імем па бацьку, дзяцей — з адным імем. «Партызаны спалілі», — раптам сказаў Янак. «Якія партызаны?» — «Ну, тыя, што за Саветамі...».

15-гадовы Янак з заходнебеларускай вёскі лепш ведаў гісторыю, чым ягоны малады настаўнік гісторыі.

Без аніякіх музеяў.

Аб адным шкадую дасюль — згубіў недзе за паўстагоддзя паперку з прозвішчамі спаленых хутаран. Запомніў толькі тры апошнія словы: «...і ўся іх родзіна»... Без «дз»...

Цяжкі сум не пакідаў мяне, пакуль я шукаў Веру.

Што станецца з музеем, які пачынаўся, па сутнасці, як музей партызанскай і нямецкай зброі, і з якога мы, народжаныя ў вайну пацаны, не вылазілі цэлымі днямі?

Ці будуць у ім спаленыя «за Саветамі» хутары?..

Ці ажыве ў ім вера ў праўду?

Праўду, якую старанна намагаюцца апрануць у спраўны белы кажушок, а жудасную беларускую трагедыю Другой сусветнай вайны ператварыць у ззяючы пераможнымі феерверкамі фон...

Яны хутка сыдуць у нябыт, апошнія пераможцы фашызму, дзеля якіх, быццам, збіраюцца народныя грошы на новы музей. Але як цудоўна будуць выглядаць на фоне «павержанага рэйхстага» — галоўнага збудавання новага музея — наш дамарослы «генералісімус» ды ягоныя генеральчыкі ў мундзірах з эпалетамі і ваяўнічым бляскам фальшывых узнагарод...

...Калі адчуваю, што нечага не хапае ў жыцці, еду на Паўночныя могілкі, дзе, пражыўшы свой век, пахавана, акрамя Веры, «уся наша родзіна»... Вось матуля Веры, мая цётка Вольга, якая выхавала Святланку. Вось сама Святлана....

А вось і Вера. Глядзіць з той самай фоткі, умураванай у граніт...

*kamerton_41@mail.ru*

# Вікторыя! 22-гадовая беларуска стала першай у свеце

**У фінале Australian Open Азаранка не пакінула шанцаў Марыі Шарапавай.**

**Мельбурн**

Шарапава, зрэшты, не чужая для Беларусі. Яе бацькі родам з Гомеля, але пасля Чарнобыльскай катастрофы пакінулі Беларусь. Марыя нарадзілася ў Нягані. Там, дарэчы, доўгі час жыла наша біятлонная надзея Дар'я Домрачава. Цікава, што адным з памочнікаў Шарапавай з'яўляецца беларус Уладзімір Ваўчкоў, колішні паўфіналіст Уімблдона.

Вікторыя на два гады маладзейшая за расіянку, ёй 22. Сёлетні турнір у Мельбурне — гэта першы ў яе кар'еры фінал і перамога ў серыі «Вялікага шлема».

Цікава, што гэтыя дзве спартсменкі з'яўляюцца аднымі з самых галасістых у свеце.

Вырашальны момант сустрэчы адбыўся ў першым сэце пры ліку 3:3. Пасля гэтага беларуска не аддала суперніцы ніводнага гейма — 6:3, 6:0.

За перамогу Вікторыя зарабіла 2,3 мільёна даляраў. Але самае галоўнае — яна стала першай ракеткай свету. Славутая Наталля Зверава дабіралася толькі да 5-га радка.

На кортах Мельбурна Шарапава крычала пасля адбітых мячоў з гучнасцю 98 дэцыбел, а Азаранка — 91.

**Пад крылом Хабібуліна**

Вікторыя Азаранка адмаўляецца даваць інтэрв'ю беларускім СМІ. Як дзяржаўным, так і недзяржаўным. Аднойчы яна растлумачыла гэта тым, што айчынным журналістам цікавыя яе асабістае жыццё, грошы, а не сама гульня. «Не хачу быць часткай папкультуры», — кажа яна.

Віка нарадзілася ў Мінску. І бацькі не надта верылі, што з крохкай дзяўчынкі будзе толк у спорце. Яе было ледзь бачна праз тэнісную сетку.

Тым не менш, у 12 гадоў яна атрымала першы кантракт. А праз два гады з'ехала ў ЗША. Тады ў яе з'явіўся ўплывовы спонсар — «Белтэхэкспарт» (узначальвае Уладзімір Пефціеў, якога ў Еўрасаюзе лічаць асабістым фінансістам Лукашэнкі).

За акіянам Азаранку пад сваё крыло ўзяў вядомы расійскі хакейны варатар Мікалай Хабібулін. Маці Вікі сябруе з ягонай жонкай. Адной з найлепшых сябровак Азаранкі з'яўляецца дачка Хабібуліна, якая нейкі час таксама выступала на тэнісных спаборніцтвах пад беларускім сцягам.

Поспехі Азаранкі прыцягвалі ўвагу яшчэ на юніёрскім узроўні. Але ж, вядома, не ўсім удаецца плаўны пераход у дарослы спорт. У Вікі ўдаўся, за лічаныя гады яна прабілася ў дзясятку сусветнага рэйтынгу.

Першы турнір Віка выйграла тры гады таму ў аўстралійскім Брысбэне. Дарэчы, усе турніры ёй скараліся на пакрыцці хард. З грунтам, цэментам ці травой справы горшыя.



Азаранка не хоча быць часткай папсвету.

Некаторыя не могуць дараваць Азаранцы матч з Лукашэнкам »

**Нармальная дзяўчына**

Цяпер Азаранка жыве ў Монтэ-Карла. Там зручней плаціць падаткі.

Пасля перамогі многія ўзгадалі тэнісістцы матч з Аляксандрам Лукашэнкам напярэдадні мінулых прэзідэнцкіх выбараў. Тое спартыўнае шоу разглядалася як частка піяр-кампаніі кіраўніка краіны.

«Мне падабаецца хадзіць па крамах, у кіно, такія тыповая дзявочыя рэчы. Я проста нармальная дзяўчына», — кажа Вікторыя. Яна сустракаецца з украінцам Сяргеем Бубкам, сынам славутага скакуна з шастом.

Яшчэ можна пачуць дакоры, ці лічыць Віка сябе беларускай. На пытанне, што для яе дом, адназначна кажа: «Мінск». А яшчэ ў адным з каментароў адзначала вялікую розніцу між беларусамі і расейцамі. Яна заўсёды гуляе за зборную краіны, хоць магла б рыхтавацца да камерцыйных турніраў, знізіўшы рызыку траўмы.

Нярэдка бывае, што ўтрымаць вяршыню не лягчэй, чым на яе ўзысці. Застаецца спадзявацца, што гэта не пра Азаранку.

**Зміцер Панкавец**

# «На корце Вікаператвараецца ў маленькага дзікага звярка»

Былая тэнісістка, а сёння спявачка **Вольга Барабаншчыкава** падзялілася сваімі ўражаннямі ад выступу Вікторыі Азаранкі на Australian Open.

**«Наша Ніва»: Вольга, здзіўленыя перамогай Азаранкі?**

**Вольга Барабаншчыкава:** Не, абсалютна. Яна мэтанакіравана ішла да мэты. Калі б Азаранка да гэтага не выйграла ніводнага турніру, а ў рэйтынгу была не ў першай сотні, то тады можна было б здзіўляцца.

**«НН»: А ў чым рэцэпт поспеху Вікі?**

**ВБ:** Спартыўны характар у яе, баец. З дзяцінства было заўважна, што на корце яна ператвараецца ў маленькага дзікага звярка. У яе фенаменальная працаздольнасць. У фінале было заўважна, наколькі яна фізічна падрыхтаваная, наколькі трымае тэмп. Плюс да ўсяго Віка, у адрозненне ад Мані, мела канкрэтны план на гульню. Шарапава ж проста не ведала, што ёй рабіць.

**«НН»: Някалі Вы прывозілі маленькай Азаранцы тры ракеткі, каб яна магла трэніравацца.**

**ВБ:** Дапамагалі, чым маглі: і формай, і ракеткамі. Мне ў свой час таксама шмат чым дапамагалі. Я тут хачу заўважыць ролю Беларускай федэрацыі тэніса, якая рабіла і робіць для Вікторыі шмат. Сама ж не люблю прымазвацца да чужых поспехаў.

**«НН»: Вы кажаце, што дзяржава дапамагала Віцы, некаторыя ж кажуць пра праект «ІІ Азаранка», які паўстаў без удзелу дзяржавы.**

**ВБ:** Калі так кажуць, то ў мяне проста кроў пачынае закіпаць. Выдатная падтрымка і магчымасці былі.

**«НН»: Тэнісную кар'еру можна сумяшчаць з актыўным асабістым жыццём?**

**ВБ:** Пры жаданні, вядома, можна. Здаецца ж, і ў Вікі ў гэтым плане ўсё нармальна. Ёсць бойфрэнд. Канечне, цяжка. Але трэба знаходзіць такіх людзей, якія б разумелі спецыфіку. У мяне хапала праблем такога плана, што мала часу знаходзіла для стасункаў. Ставілі ўльтыматумы, каб здымалася з турніраў, нават скančвала кар'еру. Час можна знайсці на ўсё. Не 24 гадзіны ж у суткі гуляць у тэніс.

**«НН»: А ў што ўкладаюць грошы тэнісісты?**

**ВБ:** Укладаюць у тое, на што хапае мазгоў. Некаторым іх не хапае зусім, і пасля тэніса яны сябе не знаходзяць, співаюцца. Такіх прыкладаў дастаткова. Разумнейшыя ўкладаюць у нерухомасць, адчыняюць тэнісныя акадэміі, робяць выпускі адзення.

**Гутарыў ЗП**



# Колькі зарабляюць тэнісісты

І Вікторыя Азаранка, і Максім Мірны ўжо зарабілі **больш за $10 мільёнаў**. Але яны не адны.

Галоўны паказчык паспяховасці тэнісістаў — высокае месца ў сусветным рэйтынгу.

Званне першай ракеткі свету, нават калі ў такім званні спартсмен пабыў усяго тыдзень, застаецца з ім назаўсёды.

Але апроч спартыўных дасягненняў, напрыклад, колькасці перамог у прэстыжных турнірах, ёсць і іншы крытэр паспяховасці. Гэта сума прызавых, атрыманых за кар'еру.

Нагодай для складання рэйтынгу стала дасягненне Вікторыі Азаранкі, якая стала самай высокааплатнай тэнісісткай Беларусі, апярэдзіўшы Макса Мірнага.

Апроч таго, Вікторыя пераадолела сімвалічную мяжу ў $10 мільёнаў прызавых. Па стане на 26 студзеня 2012 больш за $100 000 зарабілі 11 беларускіх тэнісістаў.

З іх толькі трое — мужчыны. Апошняга з іх, Уладзіміра Ігнацыка, можна далучыць да дзясяткі найлепшых авансам. Меnavіта яму наканавана стаць лідарам беларускага мужчынскага тэніса ў бліжэйшыя гады.

У дужках пасля імя пазначана найлепшая пазіцыя ў кар'еры ў адзіночным разрадзе. Разам з тым варта разумець, што прызавыя можна атрымаць і за парныя выступленні, і за змяшаныя дуэты (мужчына + жанчына). Максім Мірны ўжо не гуляе ў адзіночку, але праз удалую гульню ў пары пастаянна павялічвае памер сваіх прызавых.

**Ягор Марціновіч**



Максім Мірны і Уладзімір Ваўчкоў доўгі час былі галоўным гонарам беларускага тэніса.

## Мірны ўкладвае грошы ў рэстаранны бізнэс

**Самыя высокааплатныя тэнісісты Беларусі**

1. Вікторыя Азаранка (1) — $11 470 307
2. Максім Мірны (18) — $9 757 823
3. Наталля Зверава (5) — $7 792 503
4. Вольга Гаварцова (35) — $1 604 190
5. Уладзімір Ваўчкоў (25) — $1 315 133
6. Таццяна Пучак (55) — $1 289 584
7. Анастасія Якімава (49) — $967 402
8. Вольга Барабаншчыкава (49) — $548 692
9. Дар'я Кустава (117) — $369 552
10. Кацярына Дзегалевіч (134) — $325 022
11. Уладзімір Ігнацік (153) — $161 866

# У Лідзе праблемы з пітной вадой — яна пахла ацэтонам

Мясцовая ЖКГ **рэкамендуе кіпяціць** ваду перад ужываннем.

Раніцай 28 студзеня многія жыхары Ліды адчулі ў пітной вадзе з кранаў хімічны пах. Першапачаткова скаргі на якасць вады паступалі ад жыхароў вуліц Тухачэўскага, Рыбіноўскага і Гастэлы. Таксама пах ці то ацэтону, ці то сальвенту адчувалі і жыхары іншых раёнаў горада.

Здарэнне з вадой у Лідзе справакавала хвалю чутак. На інтэрнэт-форуме сталі пісаць пра магчымую аварыю на адным з хімічных заводаў горада; пра пацярпелых, змешчаных у бальніцу з атручваннямі.

Нашы чытачы з Ліды, якія жывуць у адным з раёнаў, дзе ўзніклі праблемы з вадой, пацвярджаюць наяўнасць непрыемнага паху. Пры гэтым яны не ведаюць ніводнага факта шпіталізацыі кагосьці з блізкіх ці знаёмых.

Тым часам мясцовая служба ЖКГ праз лідскі тэлеканал паведаміла прычыны здарэння: «Жыхары асобных раёнаў Ліды адчулі незвычайны пах пітной вады, што выклікала сумневы: ці прыдатная яна для выкарыстання і ці бяспечна гэта для здароўя? Высветлілася, што сапраўды па хімічных параметрах ёсць невялікія адхіленні, але яна адпавядае нарматывам і не ўяўляе пагрозы здароўю насельніцтва. А непрыемны пах выкліканы тым, што мінулай ноччу з-за моцных маразоў былі прыняты меры па прадухіленні прамярзання трубаправода.

У гэты час у асобных зонах на водазаборы «Бароўка» праходзіў рамонт, у тым ліку і афарбоўка памяшканняў. З-за гэтага адбылося насычэнне падаванай вады пахамі рамонту. Усе нязручнасці будуць ліквідаваны на працягу 24 гадзін. Да гэтага часу вадой карыстацца можна, але папярэдне яе неабходна пракіпяціць».

Але ні 29, ні 30 студзеня вада не прыйшла ў норму. У панядзелак па абедзе жыхары некаторых дамоў паведамлялі, што ваду па-ранейшаму немагчыма піць праз спецыфічны пах. Мы патэлефанавалі на лідскі водаканал. Там таксама сказалі, што вада набралася паху ад фарбы. Маўляў, у зале фільтрацыі сапраўды фарбавалі падлогу. І майстар не адчыніў вокны, каб праветрылася. Там паведамілі, што тэлефанаванні са скаргамі ішлі цягам панядзелка. Па такіх адрасах пасылаюць брагады, якія хларуюць ваду. На водаканале запэўнілі, што пробы вады прайшлі аналіз і яе можна піць. Але раяць, каб перад ужываннем яна адстаялася.

Толькі 31 студзеня пах з вады знік

**Сяргей Макарэвіч, Сямён Печанко**



У раёне Паўночны пасёлак у Лідзе з кранаў ішла «araматызаваная» вада.

НАСТАСЯ ШАМРЭЙ

## Чарговая ахвяра пешаходнага перахода на Сурганава

На пераходзе каля ГЦ «Рыга» быў **смяротна траўмаваны** мужчына.

Асаблівасць пешаходнага перахода на вуліцы Сурганава каля гандлёвага цэнтра «Рыга» ў тым, што зялёнае святло для пешаходаў уключаецца на зусім кароткі час, некаторыя не паспяваюць перайсці дарогу. Менавіта таму на гэтым месцы за апошнія некалькі месяцаў загінулі два чалавекі.

Згодна з правіламі дарожнага руху, кіроўцы аўто пры ўключаным зялёным святле святлафора павінны саступіць дарогу аўто, якія завяршаюць праезд скрыжавання, а таксама пешаходам, якія не паспелі перайсці дарогу.




Скрыжаванне каля ГЦ «Рыга» часта трапляе ў зводкі здарэнняў.

AUTO.ONLINER.BY

У верасні мінулага года тут загінула 17-гадовая студэнтка БДУІРа з Івацэвічаў. Яна пачала рух на зялёнае святло, а заканчвала ўжо на чырвонае. У гэты момант яе збіў BMW 520.

24 студзеня падобным чынам быў збіты мужчына сталага веку. (У каментарах на сайце nn.by паведамілі, што яму 63 гады.) Пачаў пераходзіць вуліцу на зялёнае святло і не паспеў — яго збіў УАЗ. Праз некалькі гадзін мужчына памёр у бальніцы.

Партал Auto.onliner.by адзначае, што павелічэнне інтэрвалу для пешаходаў можа прывесці да з'яўлення затораў на гэтым участку вуліцы. Наведнікі сайта ставяць пытанне: колькі яшчэ павінна загінуць пешаходаў, каб на праблемны пераход звярнулі ўвагу?

Зрэшты, скрыжаванне каля «Рыгі» — далёка не адзінае ў спісе ўчасткаў сталічных дарог, дзе часцей за ўсё здараюцца аварыі з удзелам пешаходаў.

Спіс аварыйна небяспечных пешаходных пераходаў налічвае дзясяткі скрыжаванняў і вуліц. Як, напрыклад, пераходы на плошчы Бангалор, на скрыжаванні вуліц Леніна і Ульянаўскай, нерэгуляваныя пераходы на вуліцах Кіжаватава і Казінца, Чыгуначнай, Убарэвіча, Ташкенцкай і г.д.

**Пераходы на плошчы Бангалор, на скрыжаванні вуліц Леніна і Ульянаўскай самыя небяспечныя**

На гэтых вуліцах ДАІ ўсталёўвае або планує ўсталяваць адмысловыя папераджальныя стэнды. Дзе неабходна — паляпшаецца асвятленне вуліц. На павелічэнне здарэнняў з удзелам пешаходаў сталічная ДАІ адрэагавала ўзмацненнем кантролю за нерэгуляванымі пешаходнымі пераходамі. Як вынік, за выходныя да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі 586 пешаходаў-парушальнікаў, а за парушэнне правілаў праезду пешаходных пераходаў — 154 кіроўцаў. У сярэднім штодзень у сталіцы гэтыя лічбы складаюць каля 400 і 200 адпаведна.

**Сямён Печанко**

## Трэці тыдзень шукаюць 19-гадовага хлопца

**Жыхар Ліды** знік у пятніцу 13 студзеня.

Іван Лукашун у той вечар разам з сябрамі адпачываў у клубе «Праспект». Калі ўжо збіраліся разыходзіцца, малады чалавек заўважыў, што згубіў нумарок ад гардэроба. Праз гэта яму адмовіліся выдаць куртку. Іван на гэта раззлаваўся і разбіў шкло ў дзвярах.

На камерах назірання відаць, як малады чалавек выбягае на вуліцу (куртку ўзяў у знаёмага). Затым бяжыць праз запраўачну станцыю. Назад да сяброў ён ужо не вярнуўся.

Далей за запраўкай знаходзяцца некалькі пажарных вадаёмаў і балота. Вадаёмы абследавалі вадалазы. Вынікаў гэта не прынесла. Знаёмыя Івана разам з супрацоўнікамі РАУСа і выратавальнікамі абшылі балота і наваколле. Таксама безвынікова. А па горадзе расклеілі дзясяткі ўлётак з партрэтам маладога чалавека і яго прыкметамі.

Як паведаміў прэс-сакратар УУС Гродзенскага аблвыканкама Георгій Еўчар, пошукі ўсё яшчэ працягваюцца. Па яго словах, версій адпрацоўваецца некалькі. Адна з іх — малады чалавек мог стаць ахвярай злачынства. Але следства найбольш схіляецца да няшчаснага выпадку. Заведзена крымінальная справа аб знікненні чалавека.

**Кастусь Матушыч**



**Прыкметы Івана Лукашуна**

на выгляд 18—20 гадоў, рост каля 180 см, хударлявага целаскладу. Вочы шэрыя, валасы цёмна-русыя, кароткія.

Быў апрануты: падоўжаная цёмная куртка, цёмна-сінія джынсы, шэрая кофта, цёмныя чаравікі.

Тэлефоны, па якіх можна паведаміць інфармацыю аб хлопцу: (01545) 2-02-02, (01545) 2-42-29 альбо 102.

### Сцісла

**Спрабаваў згвалціць у ліфце**

Заведзена крымінальная справа за гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару на 32-гадовага мінчука. Увечары 20 студзеня, вяртаючыся дадому, у тралейбусе ён звярнуў увагу на дзяўчыну, якая сядзела побач. На прыпынку выйшаў за ёй і рушыў услед. Зайшоў з ёй у ліфт, дзе, пагражаючы, стаў патрабаваць уступіць з ім у сэксуальную сувязь. Дзяўчына здолела выскачыць з ліфта, пачала званіць у сваю кватэру і да суседзяў. З кватэры выскачыў брат пацярпелай і заблакаваў нахабніка ў пад'ездзе. Як высветлілася, раней ён быў судзімы за згвалтаванне і хуліганства. Яму пагражае да сямі гадоў турмы.

**У Жодзіне васьмікласнік зваліўся ў катлаван з кіпенем**

У мінулыя выхадныя ў Жодзіне праравала цеплатрасу і для таго, каб ліквідаваць праблему, вырылі катлаван, які запоўніўся гарачай вадой. Ён быў агароджаны і пазначаны належным чынам, тым не менш васьмікласнік, які праходзіў міма, паслізнуўся і зваліўся ў кіпень. З апёкамі ног (20% паверхні цела) яго даставілі ў бальніцу.

**Нанёс шкоды на €25 000**

Былы начальнік аддзела тэхнагляду аднаго з ААТ вінаваціцца ў наўмысным невыкананні службовых абавязкаў. У 2009—2010 гг. на будаўніцтве малочна-таварнай фермы ў вёсцы Парахонск Пінскага раёна ён падпісваў акты здачы-прыёму выкананых прац, якія ўтрымлівалі непраўдзівыя звесткі. За гэта атрымліваў алкаголь і прадукты ад выканаўцаў прац. Шкоду фірме ацанілі ў 282 млн руб. Кампенсаваў ён толькі 228 млн. Крымінальная справа заведзена па ч. 3 арт. 425 КК (бяздзейнасць службовай асобы). Былому начальніку пагражае да сямі гадоў турмы.

**КМ**

# «Было пачуццё, што нам ніхто і нічога не можа забараніць»

Гутарка з былым вядучым **Алесем Кругляковым**.

**Алесь Круглякоў**

Нарадзіўся ў 1972 у Мінску. Працаваў на БТ ад снежня 1990. Быў адным з твараў тэлеканала, першым вядучым праграмы «Добрай раніцы, Беларусь!». Звольніўся з БТ у 1997 па ўласным жаданні. Супрацоўнічаў з тэлеканалам як пазаштатнік — каментаваў «Еўрабачанне». У 2006 канчаткова быў адхілены ад эфіру.




Малады афіцэр Праляскоўскі ўдзельнічае ў інтэлектуальнай віктарыне, рок-гурт «Крама» выступае ў прайм-тайм. Гэта кадры БТ пачатку 90-х, якія Алесь Круглякоў, папулярны вядучы, які сышоў з БТ пасля «закручвання гаек», выкладае забытыя кадры ў інтэрнэт. Карэспандэнт «НН» пагутарыў з ім пра тое, як змянілася беларускае тэлебачанне.

**«Наша Ніва»: БТ пачатку 1990-х і сённяшні «Беларусь-1»: у чым Вы бачыце асноўную розніцу?**

**Алесь Круглякоў:** Меркаваць аб сённяшнім тэлебачанні я магу як глядач. Першае прынцыповае адрозненне — тэхнічная аснашчанасць. У 90-я нацыянальны канал быў даволі местачковым і бедным. Праграмы запісваліся на аграменныя бабіны і манціраваліся на відэамагнітафонах велічынёй з шафу. Хадзіла байка, што падчас мантажу ў апаратную прывялі дэлегацыю з Германіі. Немцы сказалі: «Цікавы ў вас музей! А дзе сапраўдная тэхніка працуе?» Калі на першыя даходы ад спонсараў мы купілі суперсучасны камп’ютар, да нас з іншых паверхаў прыходзілі набіраць сцэнары, бо ва ўсіх тады стаялі друкаркі з каменнага веку.

Тагачаснае БТ крытыкавалі за другаснасць: многія праграмы былі клонамі маскоўскіх праектаў — «Взгляда», «Спокойной ночи, малыши» альбо «Поля чудес». Рэклама каштавала капейкі, грошай нават на вартае афармленне студыі не хапала.

Яшчэ адно важнае адрозненне БТ 90-х — беларускамоўнае вяшчанне. Усе праграмы выходзілі па-беларуску. Многія, напэўна, памятаюць, як карэспандэнт задаваў на вуліцы пытанне па-беларуску, а мінакі, якія не надта ведалі мову, усё роўна спрабавалі падбіраць словы і адказваць. Расійскамоўныя журналісты, каб працаваць у эфіры, вучылі мову.

**«НН»: Ці была цэнзура на БТ у пачатку 90-х?**

**АК:** Пэўны час было такое пачуццё, што нам увогуле ніхто і нічога не можа забараніць — што б мы ні казалі. Мы тады рабілі грамадска-палітычную праграму «Крок», якая трымалася на гарачых тэмах. Так, над намі яшчэ сядзелі рэдактары камуністычнага гарту, якія маглі і ад эфіру адлучыць на тыдзень-другі. Але бачна было, што робяць яны гэта з аглядкай, нібыта саромеючыся. Апафеоз страху быў падчас маскоўскага путчу 1991-га, калі раптам знялі з эфіру ўсе праграмы, а ў калідорах пачалі шаптацца пра аднаўленне цэнзуры і звальненні па ідэалагічных матывах. Але, як толькі ўсё скончылася, асцярогі зніклі.

**«НН»: А ў які момант на БТ пачаўся крэн у бок прапаганды?**

**АК:** Прыкладна ў 95-м. Тады мне давялося працаваць у службе навінаў, на пярэдняй лініі фронту. Планы былі грандыёзныя — рабіць у Беларусі сучасныя навіны, не горш за канал НТВ, які тады справядліва лічыўся эталонам. Аднак паступова гайкі пачалі закручвацца, і ўсе зразумелі, што Агенцтву тэлевізійных навінаў адводзіцца іншая функцыя. Менш чым за год АТН згубіла частку каманды, якая яе і стварала. А потым прыйшло новае пакаленне — амбітнае і ідэалагічна правільнае, якое і сфармавала выгляд сучасных навінаў.

**«НН»: На Вашу думку, чаму Вас у выніку адхілілі ад працы?**

**АК:** Калі верыць афіцыйнай версіі — таму, што скончыўся тэрмін дамовы. Але ж гэтую дамову літаральна за пару тыдняў да таго працягнулі яшчэ на год. Больш шчырай падаецца фармулёўка, якую я пачуў у прыватнай размове ад аднаго з тагачасных кіраўнікоў кампаніі: пэўныя таварышы палічылі мяне «неблаганадёжным». Дагэтуль не ведаю, успрымаць гэта як крыўду альбо як камплімент.

**«НН»: Колькі Вы зараблялі тады на БТ?**

**АК:** Тэлебачанне, напэўна, было самым нявыгадным месцам працы для журналістаў. Супрацоўнікі газет ды часопісаў зараблялі нашмат болей. Пазней, калі з’явіліся першыя камерцыйныя магчымасці, спонсары ды рэклама, некаторыя абароцістыя калегі пачалі рабіць прыбытковыя праекты. Але з заробкамі, скажам, маскоўскіх тэлевізійнікаў параўноўваць было смешна.

**«НН»: Наколькі цікавы Вам сённяшні канал «Беларусь-1»?**

**АК:** Я аддаў гэтаму каналу 15 год жыцця і, натуральна, стараюся сачыць за тым, што там адбываецца. На жаль, забаўляльнае вяшчанне ахвяраванае канкурэнтам з АНТ, а замест гэтага зроблены крэн у бок афіцыёзна-прапагандысцкай тэматыкі. Некаторыя праграмы фізічна немагчыма глядзець з-за іх падкрэсленай агрэсіі ды хлусні. Тым, хто абраў для сябе такое амплуа, хочацца сказаць: вялікага таленту не трэба, каб праславіцца як прыдворны хам і падхалім. Нашмат складаней зарабіць такую па-

## Кожны праводзіў маральную рысу, за якую ён не мог пераступіць »

пулярнасць, каб гледачам хацелася падысці і паціснуць вам руку. Я такіх людзей ведаю, але многія з іх працуюць ужо не ў Беларусі.

**«НН»: Якія цяперашнія праекты лічыце найбольш удалымі?**

**АК:** Неаспрэчнай удачай я лічу спартовыя трансляцыі. Справа гэта не з танных, але нашы гледачы ўжо адчулі смак вялікіх сусветных спаборніцтваў, так што выдаткі сябе апраўдваюць. Прыемна здзівіла арганізацыя дзіцячага «Еўрабачання». Хоць кажуць, што трансляцыяй займалася выключна англа-нямецкая брыгада, якая нават не падпусціла да камер мясцовых аператараў. Увогуле, часам здаецца, што на дзіцячым і дарослым «Еўрабачанні» выступаюць дзве розныя Рэспублікі Беларусь, з рознымі камандамі рэжысёраў, аўтарамі песень і выканаўцамі. Адной з гэтых краін ёсць нагода паапладзіраваць, з другой застаецца толькі жартаваць.

**«НН»: Якія праграмы БТ 90-х, на Вашу думку, варта было б аднавіць сёння?**

**АК:** Я б вярнуў на экраны жанр «Карамболя» з гасцямі ў студыі. Канцэпцыя была пазычаная ў славутых амерыканскіх шоу з Джэем Лена і Дэвідам Летэрманам. Ну і самае дзіўнае — на БТ вельмі цяжка з гумарам. Здавалася б, і людзі вясёлыя, умеюць і любяць пажартаваць, а тэлевізар уключыш — зашпіленыя на ўсе гузікі. І перадач гумарыстычных зусім няма.

**«НН»: Калі б Вас запрасілі вярнуцца на БТ, ці пагадзіліся б?**

**АК:** Калі я прыйшоў на тэлебачанне, у краіне існаваў усяго адзін тэлеканал, і было б глупствам адмаўляцца ад працы выключна таму, што ён кантраляваўся камуністычнай партыяй. У тых, хто хацеў рэалізаваць сябе ў прафесіі, проста не было з чаго выбіраць. Затое для сябе кожны праводзіў маральную рысу, за якую ён не мог пераступіць. На гэтым і будаваліся ўзаемаадносіны з каналам. Я выдатна ведаю, што мне цікава было б рабіць на экране, а на што я ніколі не падпішуся. І астатнія гэта таксама ведаюць. Калі хтосьці на БТ палічыць, што ім гэта трэба, — тады і пагутарым.

**Гутарыў Юрась Ускоў**




**Мінскі гурт Chill in перамог у конкурсе альтэрнатыўнай музыкі «Напралом» расійскага альтэрнатыўнага канала А1. Конкурс прадугледжваў узнагароды ў розных намінацыях (рок, поп, электроніка). Але ў выніку Chill in атрымалі агульнае для ўсіх катэгорый першае месца. За перамогу спаборнічалі каля 2000 гуртоў. На фота: стваральнікі гурта Мікалай Тоўсцік (злева) і Мікіта Бельцюкоў.**

## Сцісла

### Нясвіж — культурная сталіца Беларусі-2012

Нясвіж стаў трэцім горадам, які атрымаў ганаровы статус. У 2011 культурнай сталіцай Беларусі быў Гомель, у 2010 — Полацк. Галоўнай падзеяй акцыі «Нясвіж — культурная сталіца Беларусі-2012» стане афіцыйнае адкрыццё палацавага ансамбля Радзівілаў XVI—XVIII стагоддзяў.

### У Віцебскай абласной бібліятэцы скасавалі аддзел беларускай літаратуры

Ад 1 лютага на яго месцы будзе працаваць аддзел краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі. Кнігі на беларускай мове чытачам давядзецца шукаць па розных аддзелах, але шмат якіх выданняў яны больш не знойдуць увогуле — ідзе масавае спісанне беларускіх кніг, іх проста адпраўляюць у макулатуру.

### Леанард Коэн запісаў новы альбом

У 2009 менеджар Коэна абабрала яго і сышла. У заслужанага спевака і паэта амаль не засталося грошай, і ён выправіўся ў сусветнае турнэ. Па выніках свет атрымаў два шыкоўныя канцэртныя альбомы, а таксама дыск Old Ideas, які з’явіўся ў продажы 31 студзеня. Альбом вельмі якасны: любая з яго новых песняў, трапіўшы на папярэднія альбомы, сёння б лічылася класікай.

**ЮУ, СМ**

# Праблема Ластоўскага

**Ці ўшануюць прэм'ера БНР на яго радзіме? Піша Анатоль Сідарэвіч.**

Чалавек, які аднаго разу заявіў, што ён кніг не чытае, абвясціў 2012 год Годам кнігі.

Гэты парадокс спарodзіць і ўжо спараджае іншыя парадоксы.

У «Звяздзе» міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі аптымістычна рапартуе аб цывілізацыйных дасягненнях Беларусі: ва Украіне на аднаго жыхара выпускаецца адна кніга ў год, у нас — 4, у Нямеччыне і Францыі — 5–5,5 кнігі. Бачыце, як мы добра выглядаем?

Д'ябал, як вядома, крыецца ў дэталях. Дык вось, калі дэталізаваць, пан міністр павінен быў сказаць, што львіная доля кніжнай прадукцыі ў Нямеччыне і Францыі выходзіць па-нямецку і французску. А беларускамоўных у Беларусі — 8,5 працэнта. Гэта значыць, 0,34 кнігі на кожнага жыхара. Або прыкладна адна кніга на траіх.

Цікава было б параўнаць, колькі назваў беларускамоўных кніг выходзяць пад грыфам устаноў, што дзейнічаюць за межамі нашай краіны, і колькі — пад фірмай устаноў у самой Беларусі. Колькі назваў беларускамоўных кніг выпускаюць недзяржаўныя і дзяржаўныя выдавецтвы.

Няхай бы пахваліўся пан міністр, як дзяржава знішчыла выдавецтва літаратуры для дзяцей і моладзі «Юнацтва», фактычна ліквідавала газету «Чырвоная змена» і часопіс «Першацвет», а потым зачыніла газету «Раніца» і часопіс «Бярозка»...

Спадзяюся, падрабязны рапарт мы пачуем на пачатку верасня гэтага года — у Дзень беларускага пісьменства ў Глыбокім.

Выбар гэтага горада можна назваць удалым.

Цяперашні Глыбоцкі раён — радзіма вялікай групы людзей, якія зрабілі ўклад у беларускую культуру. Гэта і бацька сучаснага беларускага тэатра Ігнат Буйніцкі, і славуты мастак Язэп Драздовіч, і музыколаг, кампазітар, рэдактар газеты «Беларуская крыніца» і пасол на Сойм Польскай Рэспублікі Павел Каруза, і гісторык, журналіст Віктар Сянкевіч (больш вядомы як Язэп Барэйка), і пісьменнік ды фалькларыст Янка Пачопка.

У Глыбокім жыла і атрымала пачатковую адукацыю вядомая дзяячка нашай культуры і мемуарыстка Паўліна Мядзёлка. У Глыбокім нарадзіўся інжынер, дзяржаўны сакратар БНР Клаўдзій Дуж-Душэўскі (дзякуючы яму, былі захаваныя і дайшлі да нас рукапісы Янкі Купалы).

Гэтая зямля дала выдатнага польскага пісьменніка, аўтара знакамітага «Нікодэма Дызмы» Тадэвуша Далэнга-Мастовіча і славіста, прафесара Ягелонскага ўніверсітэта Здзіслава Нядзелю. Гэтая зямля дала таксама расійскага паэта, перакладчыка і філосафа Мікалая Мінскага, якога Яўген Еўтушэнка назваў дзядулем сімвалізму.

З Глыбоцкім раёнам злучаныя імёны сучасных літаратараў Марыі Баравік, Віталя Воранава, Ірыны Жарнасек, Ганны Зінкевіч, Тамаша Ляшчонка, Лявона Ракоўскага, Уладзіміра Савуліча, Алега Салтука, Галіны Сутулы, Андруся Храпавіцкага.



**Ластоўскі — першая постаць сярод народжаных на Глыбоччыне.**

Адных з гэтых літаратараў паклічуць на Дзень пісьменства, другіх — не. Бо ў нашай краіне важна служыць не роднаму слову, не нацыянальнай культуры, а ўладзе.

Самым жа вялікім выпрабаваннем для ўлады стане імя сапраўды знакавай постаці і ў гісторыі беларускай культуры, і ў гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Гэта прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі, сакратар рэдакцыі «Нашай Нівы», выдавец, паэт, празаік і публіцыст, аўтар першай гісторыі Беларусі, напісанай для беларусаў па-беларуску, і знакамітай «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлаў Ластоўскі. Сярод тых, хто нарадзіўся на тэрыторыі цяперашняга Глыбоцкага раёна (Ластоўскі прыйшоў на свет у 1883 у засценку Калеснікаў Дзісенскага павета Віленскай губерні, цяпер Плісенскі сельсавет Глыбоцкага раёна), ён, памойму, — першая постаць.

Я жыву ў чаканні Дня пісьменства ў Глыбокім. Мне вельмі цікава, як улада вырашыць у час падрыхтоўкі і правядзення гэтага свята «праблему Ластоўскага». «Праблему Дуж-Душэўскага» яна ўжо вырашыла: садрала са сцяны мемарыяльную дошку, усталяваную глыбоцкімі актывістамі ў 2008-м, — і амэн. Цяпер перад ёю «праблема Ластоўскага». Што ні кажы, а Ластоўскі — акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук.

**«Праблему Дуж-Душэўскага» ўлада вырашыла, садраўшы са сцяны мемарыяльную дошку»**

# Беларуская глыбіня. **Лёгкія лёгкія**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Прыдзеце да Мяне, усе струджаныя і прыгнечаныя,*
*І Я супакою вас; вазьмеце ярмо Маё на сябе*
*І навучэцеся ад Мяне, бо Я лагодны*
*І пакорлівы сэрцам; і знойдзеце супакой*
*Душам вашым; бо ярмо Маё добрае і цяжар Мой лёгкі.*
*Мацвея 11:28-30*

Чалавек не адчувае сваіх лёгкіх. Там проста няма нерваў. Мы проста лёгка дыхаем, лёгка ўдыхаем і выдыхаем паветра, поўнае волі, страху і духаў злосці паднябесных — аж да тае пары, пакуль аднойчы не пачынаем харкаць крывёю.

Сухотнікаў з «закрытай формай» або залечаных хапае на сутках і «хіміі». Такі адразу пачынае задыхацца ад сырасці і смяротна баіцца плесні. Глядзячы на гэтых хударлявых, пракураных і закашляных, кашчавых у літаральных сэнсе лёгкіх асуджаных (тут іх сёйтой называе «арганізмамі»), адразу згадваю Валеру Ганчарэнку.

Ганчар, Ганчарык, Ганчарэнка... Беларусы, што жывуць на цяжкой ды коўзкай глебе, — прыроджаныя ганчары. Усё спрабуюць вылепіць са сваёй цяжкай зямлі штосьці вартае, а гэны беларускі суглінак, перасыпаны пясочкам, усё трэскаецца ды б'ецца... Віктар Ганчарэнка — наймаладзейшы трэнер, які лепіць з БАТЭ каманду еўрапейскіх чэмпіёнаў. Вячаслаў Ганчарэнка — пастар царквы «Новае Жыццё» — вылепіў з былога кароўніка цудоўны дом малітвы, адзіны з хрысціянскіх іерархаў, хто адкрыта падтрымаў матуляў і жонак палітвязняў. І вось яшчэ адзін з племені ганчарэнкабеларусаў, здольных завязваць зямную плоць вузлом — Валер.

З гэтым сухотнікам я пазнаёміўся, калі мы стваралі БХД: ён пераслаў поштай ліст ды аб'ёмісты рукапісны трактат па хрысціянскім багаслоўі. Сам ён то адлежваўся ў шпіталях, то бадзяўся па электрычках, пераязджаючы з месца на месца, то знаходзіў прытулак у віцебскіх ксяндзоў; сям-там яго бачылі нападпітку.

Увосень мінулага года Валер Ганчарэнка чарговы раз загрымеў у Багушэвіцкі абласны сухотны шпіталь. Нават для чалавека, знаёмага з выпадковымі начлегамі, умовы ўтрымання тут выклікаюць агіду. Сырыя пакоі ды калідоры. Абы-які догляд. Ну а сухотнікі, яны ж вельмі чуйныя на «гніль».

**Сухотнікі вельмі чуйныя на «гніль»**

Ганчарэнка кінуў выклік галоўнаму доктару шпіталя — Наталлі Лясной.

Супрацьстаянне сапраўды атрымалася эпічным: хворы бадзяга-вальнадумец у атачэнні гэтых жа адрынутых — і жалезная лэдзі ў белым халаце, з мужам, галоўным паталагаанатамам раёна, і цэлым спецназам санітараў, міліцыі і пракуратуры за спінай.

Валер абвясціў галадоўку пратэсту, прычым звязаў гэта з прысудам Канавалаву і Кавалёву: «Лепш памерці, чым жыць у такіх умовах!» А Багушэўск яшчэ памятае май 2008-га, масавую галадоўку пацыентаў таго ж шпіталя... У выніку Ганчарэнку (маўляў, «пагражае нанесці шкоду свайму здароўю») змясцілі ў псіхіятрычнае аддзяленне і пачалі калоць псіхатропы.

Ганчарэнка ўцёк.

Валеру злавілі ў Віцебску, прывезлі назад у шпіталь і змясцілі ў палату з кратамі на вокнах і дзвярах. Мабільныя, асадкі і паперу адабралі ва ўсяго аддзялення. Цяпер нават у прыбіральню — толькі ў суправаджэнні санітара.

Цяпер Валеру Ганчарэнку можна хіба напісаць або перадаць перадачу: Віцебская вобласць, Сенненскі раён, г/п Багушэўск, БОТБ, 211510.

Часам пачуеш: каго вы ўзяліся абараняць? Бамжа, невылечнага скандаліста? Але ўмовы ў Багушэўскім шпіталі сапраўды нялюдскія. Урэшце, ад тых самых «антысацыяльных» сухотаў памерлі Шапэн, Гашак, Оруэл, святая Тэрэза, Жылка ды Багдановіч.

Увогуле, да трэціны людзей вакол нас — носьбіты палачкі Коха. Хвароба забірае хіба аслаблых: штогод у Беларусі захворвае да 5 тысячаў чалавек. Ды і сама краіна, якую з яе балотамі ганарова называюць «лёгкімі Еўропы» (так і хочацца дадаць — «апошнія лёгкія Еўропы», еўрапейцы нервова кашляюць), ужо даўно ў закратаванай сухотнай палаце пад псіхатропамі.

«Лёгкія-лёгкія, нашы далёкія, — спяваў Лявон Вольскі, — цяжкія-цяжкія блізкія нашыя!»

Часам, здаецца, набіраеш глыбока паветра ў грудзі і з цябе на волю рвецца, ніяк не вытхнецца пачварны, ніколі дагэтуль не выдыханы беларусам паветраны шар. Невыносная, як той казаў, лёгкасць быцця — таго самага, што вызначае свядомасць.

Тое, што мы па жыцці лёгка дыхаем і пакуль не хрыпім, — яшчэ нічога не азначае. Бо кожны з нас — і жалезная лэдзі ў белым халаце, і хворы бадзяга-вальнадумец, і санітар, каторы таго вальнадумца водзіць у прыбіральню ды зачыняе на ключ, і той чытач, якому ўсё гэта фіялетава — у рэшце рэшт зробіць свaімі лёгкімі, здаровымі або гнілымі, апошні ўдых, і лёгенькай душою выправіцца туды, дзе чалавеку вызначыў месца паводле справаў ягоных Госпад Бог.

*Куплін*

# Літоўская мова ў Вялікім Княстве

Якая была яе роля?
Піша **Алег Дзярновіч**.

У пачатку мая 1529 у Ейшышскую воласць Лідскага павета прыехаў судовы выканаўца (дэцкі) Васіль Бялянін. Ён мусіў апытаць сведкаў па спрэчнай маёмаснай справе паміж баярынам гаспадарскім Пятром Сумарокам і падданым ейшышскім Сенькам Івашкавічам. Судовыя органы «прыказалі есмо Сумароку і таму Сеньку Івашкавічу, абы наперад да тых сведкаў ніводзін з іх не ездзіў, але каб ехалі абодва з дэцкім».

Сумарок жа адпрасіўся застацца ў Вільні. Якое было здзіўленне дэцкага, калі па шляху ў Ейшышкі ён спаткаў Сумарока, «аж ён ад сведкаў едзе». «Потым, калі сведкі перада мною сталі і хацелі прызнацца па справядлівасці, Сумарок пачаў ім гаварыць па-літоўску перада мною і прасіў іх: «Дзеля Бога, не выдайце мяне, а што вам абяцаў, тое дам, а вас у тым не выдам», — пісаў пасля дэцкі ў адной з кніг Метрыкі ВКЛ. Лішне казаць, што Пётра Сумарок з-за спробы подкупу сведкаў прайграў у судзе справу.

Гэты выпадак паказвае, што ў XVI ст. літоўскую мову ў ВКЛ разумелі не толькі этнічныя літоўцы, але і чыноўнікі-русіны. Але судовая дакументацыя вялася на «рускай» мове, нават да афіцыйнага зацвярджэння яе ў якасці дзяржаўнай Статутамі ВКЛ 1566 і 1588.

Можна казаць пра маргінальную ролю літоўскай мовы ў ВКЛ: Пётра Сумарок спадзяваўся, што віленскі чыноўнік не зразумее па-літоўску. Але згаданы вышэй выпадак сведчыць і пра тое, што гэтая мова была рэальным фактарам грамадскага жыцця Вялікага Княства.



**Вітаўт і Ягайла (у цэнтры) вялі сакрэтныя перамовы па-літоўску. Карціна Ёнаса Мацкевічуса «Вітаўт Вялікі на з'ездзе манархаў у Луцку».**

### Мова сакрэтных перагавораў

Цікавы прыклад выкарыстання літоўскай мовы ў палітычнай сферы ёсць у лісце вялікага князя літоўскага Вітаўта да польскага караля Ягайлы. Вітаўт прыгадвае, як падчас Луцкага з'езда манархаў у 1429 імператар Святарнай Рымскай імперыі Сігізмунд пачаў з Ягайлам гаворку пра каралеўскую каранацыю Вітаўта. Ягайла стаў пагаджацца, а асцярожны Вітаўт звярнуўся да свайго стрыечніка наўмысна па-літоўску з прапановаю перш параіцца з польскімі прэлатамі і саноўнікамі.

Грунтуючыся на гэтым выпадку, літоўскі гісторык Артурас Дубоніс сцвярджае, што «вусны варыянт літоўскай мовы стаў адной з моў дыпламатыі ва Усходняй і часткі Цэнтральнай Еўропы». Але ж Вітаўт перайшоў на літоўскую, каб яго не зразумелі іншыя, замежныя ўдзельнікі нарады. Тут літоўская мова выконвала функцыю, хутчэй, крыптамовы.

Хоць у самім Вялікім Княстве ў XV ст. літоўская выкарыстоўвалася аж да найвышэйшага ўзроўню. Калі з Кракава ў Вільню прыбыў нованабраны вялікі князь Казімір Ягайлавіч, мясцовая знаць навучала гаспадара літоўскай мове і звычаям. Падобна, для маладога каралевіча першай ад нараджэння мовай была польская.

Але ўжо да сярэдзіны XVI ст. літоўская выйшла з ужытку пры вялікакняскім двары.



Mes Wladislaus/ Ketwi
ties/ Karalius Lenku/ Didysis Kunigaik
siuis/ Szemaitiu/ Inflantiu/ Smolen
du/ Gothu/ bei Wandalu

**Друкаваная па-літоўску ў Прусіі ўлётка (1639). Кароль і вялікі князь Уладзіслаў IV Ваза забараняе сваім падданым паляванне ў лясах Прускага герцагства.**

### На палях катэхізісаў

Першыя запісы па-літоўску ў ВКЛ адносяцца да пачатку XVI ст. Найстаражытнейшы — тэксты паўсядзённых малітваў, запісаныя ад рукі на апошняй старонцы выдадзенай у 1503 на лаціне кнігі для святароў «Tractatus sacerdotalis». Гэта кніга належала францішканскаму кляштару ў Вільні, і аўтар запісу, хутчэй за ўсё, быў манахам. Місіянеры Ордэна францішканцаў звярталі пільную ўвагу на выкарыстанне моў розных этнічных супольнасцяў дзеля іх катэхізацыі.

Яшчэ адзін кароткі літоўскі запіс, зроблены паміж 1530 і 1579 гадамі ў зборніку лацінскіх казаняў, верагодна, належыць пробашчу касцёла Св. Марыі Магдаліны. Значыць, літоўскай мовай карысталіся і святары касцёлаў, дзе ў казанях магла гучаць літоўская мова. Так, у 1511 кароль і вялікі князь Жыгімонт у сваім распараджэнні намесніку Жыжмарскаму загадваў «у тым касцёле жыжмарскім мець каплана, які б умеў па-літоўску казаць».

Усе згаданыя прыклады тычацца рэлігійнай сферы. Польскі гісторык Гжэгаж Блашчык, аналізуючы выкарыстанне розных моваў у ВКЛ, робіць выснову, што літоўская мова «не мела шансу на існаванне як дзяржаўнай». А літоўскі гісторык Антанас Тыла, кажучы пра адкрытасць ВКЛ як дзяржавы, адзначае, што «але ж яно занадта мала клапацілася пра захаванне і развіццё этнічнай культуры літоўцаў».

### Веліч «Малой Літвы»

Беларускі кнігадрук пачаўся з «Псалтыра» Скарыны ў 1517, літоўскі — з «Простых словаў катэхізіса», выдадзеных Марцінам Мажвідасам у 1547 у Каралеўцы. Першыя літоўскія кнігі былі падрыхтаваныя пратэстантамі і друкаваліся ў лютэранскай Прусіі пры падтрымцы герцагскай улады, з яўнаю мэтаю катэхізацыі мясцовых літоўцаў. Гісторык Юратэ Кяўпене адзначае: «Дадзены Мажвідасам імпульс не знайшоў водгуку ў ВКЛ». Сучасная літоўская літаратурная мова мае моцны адбітак мовы літоўцаў «Малой Літвы».

Затое ў ВКЛ пачынаюць выдавацца важныя для нармалізацыі мовы слоўнікі. Першы, польска-лацінска-літоўскі, езуіт і прафесар Віленскай Акадэміі Канстанцін Шырвід выдаў у Вільні каля 1620. Слоўнік змяшчаў 1400 словаў і быў настолькі папулярным, што перавыдаваўся пяць разоў.

Характэрная рыса: аўтары літоўскіх выдавецкіх ініцыятыў публічна абгрунтоўвалі матывы сваёй дзейнасці. Так, святар і асветнік Мікалоюс Даўкша ў прадмове да аднаго з выданняў піша пра патрэбу абароны роднай мовы. Менавіта мову Даўкша лічыў неабходнаю ўмоваю існавання народа і атаясамліваў яе з разуменнем Радзімы.

### Жывая мова гарадоў

У дзяржаўных актах сярэдзіны XVI—XVII стст. трапляюцца цэлыя літоўскія фразы, запісаныя кірыліцай. А за часамі караля Уладзіслава IV Вазы з'яўляюцца два літоўскамоўныя ўніверсалы 1639 і 1641, якія пашыраліся ў Прусіі. Праўда, канцылярыя Уладзіслава IV падрыхтавала іх, хутчэй за ўсё, на лаціне, а на літоўскую мову пераклала Пруская канцылярыя. Як бачым, і гэтыя літоўскамоўныя ініцыятывы сыходзілі з прускага боку. У канцылярскіх установах ВКЛ так і не ўзнікла ніводнага акта, цалкам створанага па-літоўску.

Затое магдэбургская дакументацыя сведчыць, што ў гарадскім жыцці Коўна і Вільні ў XVI ст. літоўская была адной з моваў вуснай камунікацыі. Віленскі вількор (гарадскі статут) у 1551 пастанаўляў, каб выклік на суд і вырак суда абвяшчаўся «па-польску, па-літоўску і па-руску, каб усе, хто слухае, разумелі». У Коўне такімі публічнымі мовамі былі вызначаныя польская і літоўская. Няведанне літоўскай нават стала прычынай адстаўкі ў 1538 лаўніка Ковенскай магдэбургіі немца Андрэаса Войта.

## Літоўцы дома размаўлялі па-літоўску, у публічнай сферы выкарыстоўвалі старабеларускую

### Стагоддзе лемантароў

На XVII і XVIII ст. прыпадае час масавага выпуску літоўскіх лемантароў. Першы месціўся яшчэ ў Катэхізісе Мажвідаса. Другі літоўскі лемантар быў часткаю катэхізіса, выдадзенага зноў жа ў Каралеўцы ў 1690 за грошы Людвікі Караліны Радзівіл — прадстаўніцы Біржанскай кальвінскай галіны княскага роду ВКЛ. Яшчэ адзін быў выдадзены ў Каралеўцы ў 1708 для лютэранскіх школ Прусіі.

У Вялікім Княстве спазняліся. Маюцца звесткі, што ў Вільні ў друкарні францішканцаў у 1752 быў выпушчаны лемантар жмудскі, але ён не захаваўся. Першы вядомы, «Навука чытання пісьма польскага для малых дзетак», быў выдадзены ў Вільні паміж 1759 і 1761. Ён быў зарыентаваны на навучанне асноваў літоўскай мовы ўжо польскамоўных літвінаў і сістэматычна перавыдаваўся. У выданні 1783 з яго была выключаная польская частка. Надалей лемантар называўся «Навука чытання пісьма літоўскага для малых дзетак».

На працягу 1776—1790 у Акадэмічнай (універсітэцкай) друкарні штогод выдаваліся гэтыя лемантары накладам ад 325 да 2350 асобнікаў. Такое пашырэнне было сапраўдным поспехам літоўскай адукацыі.

Дзяржаўны ж механізм ВКЛ і Рэчы Паспалітай быў больш кансерватыўны. Патрэбна было нейкае ўзрушэнне, каб дзяржаўныя інстанцыі пачалі выдаваць акты і універсалы па-літоўску. І такой падзеяй стала Канстытуцыя 3 мая 1791, тэкст якой у ВКЛ перакладаецца ўжо па-літоўску, як і некаторыя дакументы паўстання Касцюшкі.

У чым жа прычына таго, што літоўская мова здолела толькі ў канцы XVIII ст. дасягнуць узроўню мовы афіцыйных актаў?

### Мноства дыгласій

Гутарковая літоўская мова ў XV—XVI стст. у ВКЛ жыла не толькі сярод сялянаў. Яе прыхільнікі займалі найвышэйшыя пасады, а дзякі і пісары літоўскага паходжання непасрэдна ўплывалі на фармаванне моўнай культуры Канцылярыі ВКЛ. Гэта яны пакінулі літуанізмы ў актах, пісаных па-старабеларуску.

Але ў шматэтнічным і шматкультурным грамадстве ВКЛ XV—XVII стст. існавала моўная сітуацыя «мноства дыгласій». Дыгласія — гэта стан, калі ў грамадстве існуюць дзве мовы, якія выкарыстоўваюцца ў розных функцыянальных сферах. Этнічныя літоўцы, дома размаўляючы па-літоўску, у публічнай сферы выкарыстоўвалі афіцыйную мову справаводства — «рускую» (старабеларускую). Лаціна была моваю каталіцкай літургіі, але казані ў многіх выпадках прамаўляліся па-літоўску. Таксама лаціна была мовай дыпламатыі і найважнейшых дакументаў. Славянамоўнае насельніцтва сучаснай Беларусі ў паўсядзённым жыцці выкарыстоўвала свае дыялекты. Моваю праваслаўнай царквы заставалася стараславянская, якая паступова ператваралася ў царкоўнаславянскую мову мясцовай рэдакцыі.

Літоўцы, нягледзячы на перыяды занападу і абмежаванняў, пранеслі сваю мову праз стагоддзі. І дасягненні ў кнігадрукаванні XVI — XVIII стст., і абмежаванні ў публічнай сферы XV—XVII стст., і дыскрымінацыя XIX ст. паўплывалі на фармаванне сучаснай літоўскай нацыі, для якой захаванне і абарона роднай мовы стала адным з галоўных прынцыпаў.

# Выстава баксёраў



4 лютага ў Палацы чыгуначнікаў (Чкалава,7) адбудзецца рэспубліканская выстава баксёраў. Запрашаюцца ўсе аматары гэтай пароды сабак.

## ВАЛЕЙБОЛ

### Кубак выкліку

**8 лютага** мінскі «Будаўнік» у рамках 1/8 Кубка выкліку згуляе з французскім «Рэнам».

## ІМПРЭЗЫ

### Баль-маскарад

**11 лютага а 18-й у кавярні «Планета зорак»**, якая знаходзіцца ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41) — баль-маскарад. Возьмуць удзел «Брэвіс», «Гістрыён», Gloria, «Турдыён», «Залаты двор», «Яварына».

## КАНЦЭРТЫ

### Наста Шпакоўская

**Сольны канцэрт салісткі NAKA пройдзе 4 лютага. Loft-café (Мінск, Броўкі, 22). 19:00.** Кошт квіткоў — 40 000 — 70 000 руб. Даведкі і замова квіткоў: (029) 380-00-10, (029) 268-07-56, (029) 674-64-41. Для іншагародніх прадугледжана зніжка на ўваход пры наяўнасці квіткоў на праезд.

### Вайцюшкевіч у Пецярбургу

**Клуб беларусаў Пецярбурга запрашае 5 лютага а 19-й** на канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча, які адбудзецца ў клубе ART CROSS па адрасе завулакПеракупны, 12/13.

### Шалкевіч

**10 лютага а 19-й у ДК БелТГ імя Н.Шарко (Уральская, 3, ст. м. Трактарны завод)** — канцэрт Віктара Шалкевіча.

### Канцэрт да Дня Святога Валянціна

**13 лютага ў клубе «Салтайм» (пр.Незалежнасці, 131/1) а 19-й** — канцэрт гітарнай музыкі да Дня Святога Валянціна «Прызнанні». Возьмуць удзел Паліна Рэспубліка, «Нельга Забыць», «Верасень», White Night Blues, «3-Zna».

## ВЫСТАВЫ

### Шэдэўры кніжнага мастацтва XVI — пачатку XX стагоддзяў

**У Мастацкім музеі да 5 лютага** працуе выстава «Шэдэўры кніжнага мастацтва XVI — пачатку XX стагоддзяў», дзе прадстаўленыя кніжныя помнікі з фондаў Гомельскага і Веткаўскага музеяў. Самы старажытны манускрыпт на выставе — Евангелле-тэатр першай паловы XVI стагоддзя з калекцыі Веткаўскага музея. Сярод найбольш рэдкіх выданняў XVI — пачатку XVII стст. — кнігі Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца, Васіля Гарабурды, Анісіма Радзішэўскага, выданні Віленскай друкарні, львоўскага майстра Міхаіла Слёзкі.

### Дух гісторыі

**У выставачнай залі Музея гісторыя беларускага кіно (Свярдлова, 4) да 4 лютага** працуе дабрачынная выстава жывапісу і касцюмаў «Дух гісторыі». Выстава арганізаваная з мэтай збору сродкаў для рэстаўрацыі гісторыка-культурнай каштоўнасці «Комплекс былога палаца Святаполк-Чацвярцінскіх у г.п. Жалудок».

### Верацяно цішыні

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** да 11 лютага працуе выстава мастацкага шкла Алены Атрашкевіч «Верацяно цішыні». Творы зробленыя ў спалучэнні з металам і дрэвам. Абекты А.Атрашкевіч выкананы ў традыцыйных гутных тэхніках — ліцця ў форму, спякання і дапрацоўкі паверхні з шліфоўкай і паліроўкай. Аўтар увасабляе неасязальныя паняцці часу і цішыні праз крышталёвую празрыстасць шкла.

### Мацэвы штодзённага ўжытку

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12) 2 лютага а 16-й** адкрываецца фотавыстава Лукаша Баксіка «Мацэвы штодзённага ўжытку». У праекце «Мацэвы штодзённага ўжытку» фатограф даследуе лёс яўрэйскіх надмагілляў (мацэваў) пасля Другой сусветнай вайны, фіксуе шматлікія выпадкі выкарыстання яўрэйскіх надмагілляў як будаўнічага матэрыялу. Выстава працуе да 23 лютага.

### Атрыбуты

**Да 11 лютага ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава твораў Ганны Атаян (Львоў, Украіна) «Атрыбуты».

### Калядная выстава

**У Палацы мастацтва (Казлова, 3) да 16 лютага** працуе «Калядная выстава», дзе можна ўбачыць творы мастакоў, выкананыя ў самых розных тэхніках, на зімовую ці калядную тэматыку.

### Выпадковае танга

**Да 19 лютага ў галерэі tut.by (Харужай, 1а)** працуе выстава графікі Сяргея Баленкі «Выпадковае танга». Сяргея Баленку называюць «нетыповым» і нават «скандальным» мастаком, адзначаюць асаблівую лірычнасць яго-ных працаў…

### Судакрананне

**Да 18 лютага ў галерэі візуальных мастацтваў Nova (Кульман, 2)** працуе выстава «Судакрананне. Праект Максіма Дасько» — першы персанальны праект маладога мінскага аўтара, чые творчыя пошукі прывялі да разумення асаблівага статуса негатыва ў фатаграфічным працэсе.

### Метамарфозы

**Да 12 лютага ў Гістарычным музеі** працуе выстава піктаральнай фатаграфіі «Метамарфозы», прысвечаная 130-годдзю з дня народзінаў Льва Дашкевіча. Піктаральная фатаграфія — адзін з напрамкаў мастацкай фатаграфіі. Піктаралісты праз гульню святлаценю і складаным метадам друку ператвараюць фотакартку калі не ў карціну, то ў малюнак альбо гравюру.

Выстава прысвечаная 130-годдзю з дня народзінаў беларускага фотамайстра Льва Дашкевіча — папярэдніка сучаснай беларускай піктаральнай фатаграфіі.

### Прасторы вольныя зямлі

**Да 27 лютага ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Прасторы вольныя зямлі» (беларускі пейзаж 1950-2000-х), на якой прадстаўлена каля 80 жывапісных твораў беларускіх мастакоў, выкананых у жанры пейзажу.

### Новы год: час мінскі

**Да 1 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Новы год: час мінскі». На выставе прадстаўленыя больш за 300 прадметаў: гадзіннікі і гадзіннікавыя механізмы самых разнастайных відаў і гістарычных часоў, творы жывапісу, графікі, фотаздымкі, прадметы побыту і інтэр'еру.



### Гурт FolkRoll і Наста Някрасава

**3 лютага. 19.00. КЗ «Мінск» (Малая сцэна)** — канцэрт з нагоды дня народзінаў спявачкі. Кошт квіткоў — 30000 і 40000.

## ТЭАТРЫ

### 2 лютага

**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі рая»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»

### 3 лютага

**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі рая»
**Купалаўскі** — «Не мой»

### 4 лютага

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Купалаўскі** — «Вяселле»

### 5 лютага

**Лялек** — «Асцярожна, свіння»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 6 лютага

**Купалаўскі** — «Востраў Сахалін»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 7 лютага

**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам?»

### 8 лютага

**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 9 лютага

**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 10 лютага

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 11 лютага

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Алена Сяргееўна»

### 12 лютага

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Дзеці Ванюшына»

## КІНО

### Конь Стывена Спілберга

**Баявы конь (War Horse)**
ЗША, 2011, каляровы, 146 хв.
**Рэжысёр:** Стывен Спілберг
**Ролі выконваюць:** Джэрэмі Ірвін, Пітэр Мулан, Эмілі Уотсан, Нільс Арэструп, Дэйвід Цьюліс
**Жанр:** Гісторыка-эпічная ваенная меладрама паводле рамана Майкла Марпурга
**Адзнака:** 6 (з 10)

Юны Альберт прывязаўся да каня Джоў, якога бацька купіў на апошнія грошы. Калі пачалася Першая сусветная вайна, коня адправіўся на фронт. Альберт абяцаў, што знойдзе і выратуе свайго сябра.

Стужка Стывена Спілберга — сентыментальны варыянт «Выратавання шарагоўца Раяна». Жаўнер — конь, які пераходзіць ад арміі да арміі, перабягае праз лінію фронту, блытаецца ў калючым дроце і дэманструе цуды выжывання. Як здараецца ў дзіцячых фільмах Спілберга, дапамагаюць пакутніку людзі з чыстым сэрцам: англійскі афіцэр, французская дзяўчынка, нямецкія браты, трагічна расстраляныя каля млына.

Рэжысёр надзвычай далікатна абмінае ўсялякія кадры гвалту: гаворыць сама прырода — пранізлівым сінім небам, залацістым жытам і ўзнёслай музыкай. Белы снег дорыць сустручу і спачуванне.

Стужка вылучаная на сёлетні «Оскар» у галоўнай намінацыі «Найлепшы фільм», а таксама за свае візуальныя якасці, гук і музыку.

**Андрэй Расінскі**



# Які мёд самы смачны

Якім **мёдам** лепш **лячыцца** ад бранхіту, а якім — ад хваробаў суставаў.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Алег Баярчук лічыць, што ўвесь мёд карысны.

Адрас крамы «БелМёд» — Мінск, вул. Стралковая, 7.

Пра мёд і пчалярства Алег Тадэвушавіч Баярчук, дырэктар і ўладальнік гандлёва-вытворчага прадпрыемства «БелМёд», можа расказваць гадзінамі. У яго сям'і пчалярствам займаліся маці і дзядуля. Для апошняга гэты занятак стаўся трагічным: памёр ад укусаў пчол. А сам Алег упершыню сур'ёзна сутыкнуўся з мёдам пяць гадоў таму.

Раней працаваў інжынерам на МТЗ. Па волі лёсу ён, чалавек з дзвюма вышэйшымі адукацыямі, сышоў з той працы. Потым змяніў яшчэ некалькі месцаў — усё не тое. У выніку патрапіў у цэх па расфасоўцы мёду пры Свята-Елісавецінскім манастыры, што ў Навінках. Пачынаў звычайным рознарабочым. Праз некалькі месяцаў узначаліў цэх, а яшчэ праз некаторы час стаў кіраўніком групы па арганізацыі выставаў мёду. «Бог накіроўвае чалавека туды, куды лічыць патрэбным і дзе яму будзе лепш», — лічыць Алег.

Наступным жыццёвым этапам стала нараджэнне блізнятак. Каб забяспечваць сям'ю, патрэбна было больш грошай. А манастыр не мог плаціць болей. Алег уладкаваўся ў прыватную фірму, якая гандлявала ўкраінскім мёдам. Праз паўгода стаў яе дырэктарам. «І тады ў мяне ўзнікла думка: няўжо ў нас бракуе свайго высокаякаснага мёду, што трэба завозіць з Украіны, Алтая, Башкірыі?» — кажа Алег.

Паразмаўляўшы з беларускімі пчалярамі, ён прыйшоў да высновы, што беларускі мёд — самы смачны, нават лепшы за той, што да нас трапляе з-за мяжы. «Ніводзін башкір не павязе ў Беларусь якасны прадукт, гэта проста нявыгадна — лепш прадаць у Маскве. Застаецца толькі здагадвацца, што ў нас прадаюць пад выглядам башкірскага ці алтайскага мёду. Дураць беларусаў, а мы прымаем на веру ўсё тое, што кажуць гандляры...» — расказвае пчаляр.



Беларуская пчала самая працавітая.

### Як адрозніць якасны мёд ад падробкі?

Ёсць просты спосаб праверыць якасць мёду. Праз 5-7 хвілін пасля таго, як вы пакаштавалі сапраўдны мёд, у роце не павінна застацца аніякага прысмаку, нават салодкага.

Беларускі мёд Алег параўноўвае з ювелірным вырабам ручной працы. У нашай краіне не шмат раслінаў-меданосаў, а вільготнасць паветра высокая. Праз гэта пчала хутчэй растрачвае сілы на збор мёду, ёй даводзіцца больш працаваць. Пчаляру, каб атрымаць якасны прадукт, трэба карпатліва выконваць тэхналогію збору.

Набраўшыся вопыту, Алег вырашыў стварыць прадпрыемства, каб займацца беларускім пчалярствам. Так з'явіўся «БелМёд». Зараз гэтая кампанія гандлюе як уласнай прадукцыяй (з Налібокаў), так і мёдам іншых беларускіх пчаляроў. А таксама інвентаром для пчалярства — вуллямі, спецвопраткай... «Заўсёды знойдуцца людзі, якім патрэбны танны тавар. Як і тыя, што прыйдуць да нас, каб заплаціць даражэй, але ведаць, што за такі мёд сорамна не будзе, калі кагосьці пачастуеш», — кажа ён.

У краме спадара Баярчука выстаўлена багата гатункаў мёду: палявы, лугавы, ліпавы, лясны, грэчкавы, кветкавы, сардэчнікавы, майскі. Насамрэч назваць можна яшчэ болей. Лічыцца, што той ці іншы гатунак мае свае ўласцівасці.

**Грачаны мёд** асабліва багаты на вітаміны і мікраэлементы, у ім шмат жалеза. Карысны пры малакроўі, захворваннях нырак і пячонкі.

**Ліпавы мёд** валодае антыбактэрыяльным і патагонным дзеяннем. Яго добра прымаць пры прастудзе.

Спрыяльна ўплывае на сардэчна-сасудзістую сістэму кветкавы мёд. Ён карысны і пры гінекалагічных захворваннях.

**Сланечнікавы мёд** багаты на правітамін А, мае моцныя бактэрыцыдныя ўласцівасці.

**Мёд з акацыі** карысны пры бяссонніцы і захворваннях страўніка.

На думку Алега, любы мёд — карысны для здароўя. «Я часта параўноўваю мёд з людзьмі. Нельга сказаць, напрыклад, што цёмнаскуры чалавек горшы ці лепшы за іншага. Ён жа таксама Чалавек. А астатняе — гэта асабістыя перавагі». Апроч самога мёду, карыснымі з'яўляюцца іншыя прадукты пчалярства.

**Пасля добрага мёду праз 7 хвілін не застаецца салодкага прысмаку** »

**Забрус**, ці пячатка мёду — гэта васковыя «крышачкі», якімі пчолы запячатваюць соты як своеасаблівы знак якасці. Карысны для лячэння бронхаў, асабліва для дзяцей. Кошт за 100 грам — 10 тысяч рублёў.

**Прапаліс** — моцны прыродны антысептык. Лячэнне ангіны, зажыўленне ран, язвы страўніка, парадантозу. Кошт — 700 рублёў за 1 грам.

**Пярга**, ці «пчаліны хлеб» — перапрацаваны пчоламі пылок, закладзены ў соты. Гэта моцны імунастымулятар. Багаты на шчолачы і амінакіслоты. Кошт за 100 грам — 45 тысяч.

З **падмору** (мёртвых пчол) робяць спіртавыя настойкі (20 грам на бутэльку гарэлкі) для лячэння прастаты, хваробаў суставаў, рэўматызму. Кошт за 20 грам — 20 тысяч рублёў.

**Пчаліны воск** выкарыстоўваецца ў народная медыцыне і ў касметычных мэтах, для вытворчасці мазяў і крэмаў. Кошт — 90 тысяч за 1 кг.

**Аксана Рудовіч**

**Тэлефанія**

## Новы этап змагання за абанентаў

У Беларусі пачаўся **перанос мабільных нумароў**.

З 1 лютага беларусы атрымалі магчымасць змяняць мабільнага аператара, пакідаючы свой нумар тэлефона. Калі ў вас быў нумар Velcom (029) 123-45-67, вы можаце пачаць карыстацца паслугамі МТС і па-ранейшаму мець нумар (029) 123-45-67.

Рашэнне пралабіраваў аператар Life:), які дагэтуль мае найменшую долю на рынку. Туркі спадзяюцца, што ім удасца перацягнуць абанентаў у сваіх супернікаў. У прыватнасці, кампанія праводзіць акцыю «Будзь першым з life:)». Той, хто «прынясе» свой нумар туркам, атрымае бонусны пакет на 6 месяцаў: 200 хвілін у іншыя сеткі і 200 МБ інтэрнэт-трафіку.

А вось ні МТС, ні Velcom пакуль не заяўлялі пра тое, ці рыхтуюць яны акцыі па перацягванні абанентаў.

**ЯМ**

**Як перанесці нумар?**

- Звярнуцца з пашпартам да старога аператара.
- Атрымаць бланк з дазволам.
- Звярнуцца да новага аператара.
- Праз два-тры дні карыстацца новай сім-карткай.

Калі вы патэлефануеце чалавеку, які перанёс нумар, сістэма папярэдзіць вас, у якой сетцы ён зараз. Калі пакласці трубку падчас папярэджання, грошы злічвацца не будуць.

**Транспарт**

## У Беларусі з'явяцца электронныя карткі для аплаты праезду

**Эксперымент пачнецца** з Баранавічаў.

У нашай краіне пачалася распрацоўка адзінага праязнога дакумента. Такі білет будзе ўяўляць сабой бескантактавую пластыкавую картку. Яе можна будзе выкарыстоўваць у аўтобусах, тралейбусах, трамваях, метро. Увайшоўшы ў транспарт, пасажыр мусіць прыкласці картку да спецыяльнага электроннага кампосцера, каб з яе пачалі спісваць сродкі. Такую ж працэдуру трэба будзе здзейсніць і на выхадзе з транспарту. Усе электронныя кампосцеры будуць аб'яднаны ў сістэму, дзякуючы якой спецыялісты змогуць адсочваць усе перасоўванні пасажыраў.

Першы такі праект будзе рэалізаваны ў Баранавічах да канца 2013 года. Пасля новая сістэма мусіць ахапіць увесь грамадскі транспарт краіны, а ў перспектыве – і маршрутныя таксі з унутранымі міжгароднімі перавозкамі.

**ЯМ**



**28 студзеня каля хутара Арлоўшчына Валожынскага раёна прайшлі зімовыя гонкі на сабачых запрэжках «Завіруха-2012». Галоўнымі героямі спаборніцтваў сталі сабакі пароды хаскі. Гэта спецыяльныя ездавыя лайкі, выведзеныя для таго, каб цягнуць запрэжкі праз снег ды завею. Беларускія заводчыкі, якія прывезлі сваіх гадаванцаў на спаборніцтвы, распавядалі, што адзін такі сабака каштуе ў сярэднім каля 1500 даляраў.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**28 студзеня ў мінскім бізнес-цэнтры «Вікторыя» адбылася сушы-бітва, у якой змагаліся майстры гэтай стравы з усёй краіны. Вянцом вечара стала ўсталяванне нацыянальнага рэкорду па гатаванні самых вялікіх ў Беларусі сушы ў 21 кілаграм.**



**14-гадовая дачка Уга Чавеса Расінэс выклала ў твітары фотаздымак з пачкай даляраў. У Венесуэле гэта выклікала абурэнне, бо абарот валюты ў краіне жорстка абмежаваны.**



**Беларускія матывы на «тыдні моды» ў Парыжы.**

## Анекдоты

* * *

Народная прыкмета: калі снег у сярэдзіне зімы стаў для вас нечаканасцю, значыць, вы працуеце ў сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

* * *

– Чаму беларусы так чакаюць канца свету?

— Бо спадзяюцца хоць на нейкія змены да лепшага.

* * *

– Ці праўда, што на МАЗе збіраюцца выпускаць самалёты?

– Наконт самалётаў не ўпэўнены, але верталёты для ўрада ім даверыць можна.

* * *

Патрабуецца кіроўца-інкасатар! Зарплата — аклад +5% ад дастаўкі.

* * *

Шарык з «Прастаквашына» — першы савецкі хіпстар. Замест карысных у гаспадарцы рэчаў купіў сабе кеды і фотаружжо.

* * *

Паколькі выстаўленне муляжоў работнікаў ДАІ на ўчастках дарог, дзе кіроўцы рэгулярна перавышаюць хуткасць, дало пазітыўны вынік, было вырашана пашырыць такую практыку. Цяпер у месцах несанкцыянаваных масавых акцый пратэсту будуць выстаўляцца муляжы спецназаўцаў і асобаў у цывільным.

* * *

Моркаўка ці жыццё! — крычаў заяц, пагражаючы снегавіку фенам.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Івянец, Мінскі павет.** 11 студзеня падчас кірмашу нехта ў царкве пачаў званіць. Людзі думалі, што гэта пажар, збегліся, але пажару нідзе не было. Тады кінуліся да царквы, аж тут засталі, злазячы з званіцы, нейкую вяскову кабету, муж каторай недалёка ад царквы сядзеў на возе і чакаў яе. Аказалася, што гэтая кабета, маючы на некага злосць, паверыла забабонам, абвязала ніткай звон і пазваніла ў адзін бок звана. Па яе расказу, ад гэтага прыйдзе пагібель яе нейкаму ворагу. Івянчане, не слухаючы яе дурных казак, наклалі ёй і мужу «плястароў» і пусцілі дадому.

**«НН». №4. 1912.**

**Васіль Сёмуха:** «У снежні я меў тэлефанаванне з Беларускага радыё з прапановай на супрацоўніцтва ў абноўленай праграме як літаратар-перакладчык. Сама ж па сабе прапанова прывабная, але насцярожвала просьба падаць тэкст выступу на папярэдні прагляд, інакш кажучы — на цэнзуру. На радыё, дзе гвалтам душаць голас душы, гэта з'ява натуральная, але супрацоўніцтва з такім радыё — ганебна.

**«НН». №4. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7800. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 31.01.2012.
Замова №468.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12